ГОД VI ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК № 50
1952 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

## ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

ЗЬМЕСТ



**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année VI. № 50 Septembre-Octobre 1952
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI[e]

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1952 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI[e].

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:

Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981,
4, de Junio, Buenos Aires.

У АЎСТРАЛІІ:

Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str.
East BRISBANE. Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:

Mr. Sacko Alexander. 19, Place Hoover, LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах ,ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.
**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.**

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.
У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.
У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**У В А Г А !**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпададны асабісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка. **Рэдакцыя.**

**З БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ МУДРАСЬЦІ.**

Бог багаты — болей мае, як раздаў.
Бог бачыць сірочыя сьлёзы.
Бог ведае, як хто абедае.
Бог гордых з неба скідае.
Бог дае на ўсіх долю.
Бог ды Бог, але й сам ня будзь плох.
Болей слухай, а меней гавары.
Бруд — хвароба, бруд — магіла; чысьціня здароўе, сіла.
Будзе і на жыгліву крапіву мароз.
Будзе пара, вырасьце трава.
Будзь перш выслухачым, а потым павядачым.
Будуць дзеці, будзе і на дзеці.
Бяда адна ніколі ня ходзіць, другую за сабою водзіць.
Бяда хоць мучыць, але жыць вучыць.
Бяду перацярпеў, а дабра ня сьцерпеў.
Бяды ня шукай, сама прыйдзе.
Бяз Боскае помачы нічога ня зробіш.
Бяз Боскага допусту і волас з галавы не спадзе.
Бяз працы жыць, толькі неба капціць.
Бяры на веру, пішы на сьцену.

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»**

**І ФОНД «ДОБРАЕ КНІЖКІ».**

**Апошнім часам прыслалі:**

Асімовіч Я. 800 фр., Елешэвіч П. 500 фр., Каранеўскі М. 450 фр., Качан У. 1100 фр., Карніловіч С. (група Клевэлянд) 1724 фр., Мятла П. 500 фр., Р-я Б. 1500 фр., Сарока Ул. 450 фр., а. Т. У. 400 фр, Група Ля Крэзо 2200 фр., Шэцько А. (група Бэльгіі) 2310 фр., Яцкевіч Д. (група Аўстралія) 2417 фр.

// БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VI. ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК № 50

# Мова кастрычніцкае рэвалюцыі

Сёлета па ўсім Савецкім Саюзе і ў падбальшавіцкіх краінах урачыста азначаюць 35-ыя ўгодкі рэвалюцыйнага пераваропу. Сталася тая падзея далёка ад Беларусі і беларускі народ у ёй ня прымаў актыўнага ўдзелу, аднак хутка разам з іншымі суседнімі краінамі стаўся ахвяраю бальшавіцкага гвалту, а сёньня ўвесь сьвет стаіць перад пагрозаю падзяліць долю паняволеных бальшавізмам краінаў, калі не здабудуцца на актыўнае супрацьдзеяньне заразе. Сёньня ад бальшавізму больш або менш цярпяць амаль усе, незалежна ад таго, ці яны жывуць далёка ад Савецкага саюзу, ці блізка і гэты факт прамаўляе штораз галасьней да пераканаьня здаровадумаючых людзей, што супраць агульнага ліха, трэба ўсім шукаць дзейнае рады. Самазразумела, што тая рада будзе тады дзейная, калі зьнішчыць найглыбейшыя карані бальшавізму. Дзеля гэтага варта пашукаць тых каранёў.

Зьявіўся бальшавізм ня прыпадкам і не адразу; ён доўгія гады дасьпяваў у Расеі, аж пакуль выбухнуў крывавым вульканам. Падобна як хворы нясьведама хапаецца за балючае мейсца, так і хваля рэвалюцыі ў першую чаргу кідаецца на тыя вогнішчы, што яе выклікалі. Кастрычніцкая рэвалюцыя накінулася на дэспатызм, сацыяльную несправядлівасьць, нацыянальнае гнобленьне і асабліва моцна на рэлігію. І тут зноў, вяртаючыся да прыкладу з хворым трэба сьцьвердзіць, што хворы хватаючыся за рану, гэтым яе яшчэ ня лечыць, падабна і рэвалюцыйны выбух ня вылечыў тых грамадзкіх верадаў, якія выклікалі народны бунт і выявілі прычыны грамадзкіх хваробаў. Абавязкам усіх адказных людзей ёсьць, каб не заплюшчваць вачэй на выяўленыя факты, наадварот, да іх трэба прыглянуцца якнайбольш уважна.

Рэвалюцыйная хваля накінулася на некалькі хворых пунктаў, але між імі найглыбейшым а тымсамым і наважнейшым трэба лічыць рэлігійны заняпад. Шмат хто задоўга перад рэвалюцыяю, назіраючы адносіны да рэлігіі ў Расеі, прараквакаў нямінучую катастрофу для царскае імпэрыі. Выдатны вучоны праф. фізіялёгіі Гальяш фон Ціён (1843-1912), які на пачатку гэтага стагодзьдзя быў заклікаy ў Пецярбурскі унівэрсытэт і на сваёй інаўгурацыйнай лекцыі ўспомніў імя Бога, быў моцна зьдзіўлены, што студэнты на гэта зарэагавалі бурнымі пратэстамі. Прысутны на інаўгурацыі міністар асьветы стараўся абярнуць у жарт паводзіны студэнтаў. На гэта праф. Ціён заўважыў, што легкаважыць гэтага зьявішча нельга, бо патураючы падобнаму бязбожнаму ўзгадаваньню, нямінуча дойдзе да рэвалюцыі не пазьней, за якіх 30 гадоў. Бачым, што вучоны крыху пераличыўся ў гадох але ў сваіх прадбачаньнях нічуць не памыліўся.

Пасьля рэвалюцыі, дык пераважная большасьць тых дасьледнікаў, што шукалі яе прычынаў, прыходзілі да выснаўку, што яе выклікаў доўгавяковы рэлігійны заняпад і проста адступніцтва ад веры.

Аб тым, якое было адступніцтва ад веры ў Расеі найлепш паслухаць сьведчаньні кампэтэнтных людзей так з асяродзьдзя праваслаўных ерархаў, як і дзяржаўных дзеячоў.

У другой палавіне XIX ст. расейскі ўрад рабіў спробы выясьніць прычыны рэлігійных неладоў у некаторых губэрнях. З гэтаю мэтаю быў разасланы адпаведныя анкеты да губэрнатараў. Вось што ў адказ на тую анкету пісаў С. П. Гагарын архангельскі губэрнатар: «Нашае духавенства неасьвечанае, грубае, незабясьпечанае і аднача сваімі паводзінамі і спосабам жыцьця разяча выдзяляецца ад народу, ня робячы на яго найменшага ўплыву... Казаньняў наш народ ня чуе ад праваслаўнага духавенства... Таму астаецца без пазнаньня веры... Ці можа народ паважаць духавенства, калі ўсюды між імі бачыць няўважнасьць у служэньні, бясчынствы пры выконваньні абрадаў сьв. Тайнаў... а патураньне кансісторыі, якая кіруецца хабарам, вынішчае ў іх і апошнія рэшткі праўды» (П. Милюковъ, Очерки по исторіи русской культуры. Парижъ, 1931. Т. II, ч. I, стр. 171-172).

Ведамы расейскі публіцыст Розанов, міма свае глыбокае пашаны да Праваслаўнае Царквы, яшчэ перад рэвалюцыяй з сумам казаў: «Сучасную Царкву можна прыраўняць да пахучага рэліквіяра са сьвятымі мошчамі; ніхто ня скажа, што гэта паменшальнае прыраўнаньне, бо прыраўноўваецца да сьвятога, да божага... Але нельга аспрэчваць, што сьв. мошчы ня рухаюцца, не варушацца». Аб праваслаўных сьвятарох ён цытуе пагляды ін-

шых: «На наша духавенства сыпалася безьліч абвінавачаньняў, а ў інтымных гутарках — іх, гэных абвінавачаньняў — яшчэ больш, чым у яўных, да таго з кругоў найбольш прыхільных да Царквы. С. А. Рачыцкі — гэта-ж, здаецца, самае адушаўленьне, сам узьлёт у сэнсе вечнага і безустаннага цалаваньня падвалін Царквы, а між тым ягоныя «Письма къ духовному юношеству»... гэта значыць да заўтрашніх сьвятароў, падобныя на так бядовы памфлет супраць нораваў нашага духавенства і агульнага бясьсільля... што сам аўтар першапачатна ня пусьціў кніжкі ў прадажу і толькі год пасьля выданьня асьцярожна даў доступ да яе ўсім жадаючым» (В. Розановъ, Около церковныхъ стѣнъ. С. Петербургъ, 1906. Томъ I, ст. 52-53).

Беспараўнаньня вастрэйшы суд аб дарэвалюцыйным духавенстве даў шырокаведамы праваслаўны ерарх архіяп. Антоній (Храповіцкі) у сваім лісьце да мітр. Флавіяна з дня 28 кастрычніка 1907 г. Характэрызуючы праваслаўнае акадэмічнае духавенства, ён падаваў такія факты, што іх тут ня мейсца поўнасьцю цытаваць, абмяжуемся толькі некаторымі сказамі: «Папы, якія вучацца ў акадэміях, праз цэлыя месяцы ня ходзяць у цэркvы, перад службаю (раніцаю) ядуць каўбасу з гарэлкаю, дэманстратыўна грамадамі ходзяць у публічныя дамы... Калі лепшыя студэнты супярэчаць папом на зборках: «Гэта ня годзіцца з асноўнымі догмамі хрысьціянскае веры», дык ім адказваюць: «Я догмаў ня прызнаю». І вось грамады такіх зьверападобных экзэмпляраў напаўняюць нашыя школы, як настаўнікі рэлігіі» (П. Милюковъ. усп. твор стар. 174).

Відаць, што гэты ліст ерарха напісаны пад уражэньнем абураючых фактаў і таму, магчыма, ён залішне абагульнівае дрэнныя праявы, зусім забываючыся аб тым, што з успомненых лепшых студэнтаў выходзілі так-жа добрыя сьвятары, але нажаль трэба згадзіцца з паважаным ерархам у яго строгім асуджваньні дрэннга, бо агульна ведама, што добрае чуваць далёка, але ліхое яшчэ далей. І вось пад уплывам тэтага ліхога адбываўся рэлігійны заняпад у народзе. Той-жа ерарх яшчэ ў 1899 г. пісаў у казанскім часапісе «Дѣятель» аб расейскім народзе: «Гэта ўжо не народ але гніючы трып, які сваё гніцьцё ўважае за жыцьцё, а на ім і ў ім жывуць толькі краты, рабакі і агідная жамяра якая радуецца з таго, што цела памерла і гніе, бо ў жывым целе ня было-б заспакаеньня іхных пажаданьняў, ня было-б для іх жыцьця» (Н. Д. Тальберг, Святая Русь. Парижъ, 1929 с. 127).

Гэтыя і падобныя ім думкі вартыя тымбольшае ўвагі, што іх выказалі шчырыя праваслаўныя расейскія патрыёты. ,

Аб тым, якое дачыненьне мае рэлігійны заняпад да кастрычніцкае рэвалюцыі 1917 г. найбольш ясна выказаўся шарокаведамы расейскі філёзаф Н. Бердяеў. Вось ягодыя слова: «Бальшавізм адказвае духоваму стану расейскага народу, выяўляе навонках нутраныя духовыя распады, адступніцтва ад веры, рэлігійны крызіс, глыбокую дэмаралізацыю народу... Савецкая ўлада сталася адзінаю магчымаю ў Расеі ўладаю ў мамэнт разлажэньня вайны... У мамэнт духовага ўпадку і эканамічнага разгрому, у мамэнт аслабленьня звычаёвых асноваў. Гэтая ўлада сталася народнаю ў вельмі непахвальным для яе сэнсе. Другая ўлада не магла быць створана ў стыхіі рэвалюцыі, у тых духовых і гістарычных абставінах, у якіх гэтая стыхія разбушавалася. Народ знаходзўўся ў стадыі абману і стварыў манлівую ўладу. Толькі бальшавізм мог сяк-так арганізаваць і ўтрымаць раскаваную ім дэманічную стыхію... Улада, каторая захацела-б быць больш культурнаю, не магла-б існаваць. Бог быццам перадаў бальшавіком уладу для пакараньня народу за грахі» (Н. Бердяев, Новое средневековье. Берлин, 1924, стар. 71-72).

У сьвятле гэтых фактаў і разважаньнаў становіцца ясным, што ўся рэлігійная дзейнасьць сьвятароў, уся рэлігійная прэса, усе дыскусіі аб рэлігіі ці то на старонках прэсы, ці пры кожнай іншай нагодзе — ня ёсьць асабістаю справаю сьвятароў. Не! **Гэта агульная жыцьцёвая справа, а для беларускага народу гэта справа жыцьця і сьмерці.** Толькі чалавек злое волі яшчэ сёньня ня бачыць і не разумее, што народ, які ня прыносіць Богу бяскроўнае ахвяры ў сваіх сьвятынях, прыносіць страшэнныя крывавыя ахвяры ў канцэнтрацыйных лягэрах; дзе заціхае песьня на хвалу Бога, там узьнімаецца да неба стогн і плач. Вялікую праўду казаў Вільям Пэн: «Тыя, што ня хочуць слухацца Божых прыказаньняў, будуць слухацца тыранаў». Бальшавікі, відаць, першыя зразумелі, што сапраўдная рэлігійнасьць азначае канец іхняму панаваньню, таму і вядуць бязьлітасны прасьлед.

Беларускіх сьвятароў асталося вельмі мала, але тыя, што асталіся, ужо ня раз далі доказ свае шчырае любові народу і гэтая любоў ня толькі дазваляе, але і забавязвае пры кожнай нагодзе напамінаць сваім суродзічам, што бяз шчырае рэлігійнасьці беларускі народ ніколі ня будзе мець лепшае будучыні. Калі зьяўляюцца некаторыя гора-дзеячы, што раяць рэлігійную абыякавасьць, як разьвязку рэлігійнага пытаньня на Беларусі, дык на гэтым мейцы ніжэйпадпісаны, выконваючы свой сьвятарскі, грамадзкі і беларускі нацыянальны абавязак, найбольш ясна прынамінае перад ўсім народам, **што рэлігійная абыякавасьць раней ці пазьней родзіць нешта падобнае да кастрычніцкае рэвалюцыі.** Тымчасам ўсяму сьвету, а можа найбольш беларускаму народу, кастрычніцкая рэвалюцыя выціснула зашмат сьлёз і крыві, каб забывацца аб яе прычныах.

Здаецца ўжо было даволі часу ,каб зразумець, дзя чаго вядзе безрэлігійнасьць, але тымбольш быў час так-жа сьвятаром зразумець, якія яны маюць адказныя абавязкі адносна народу і якую яны нясуць адказнасьць за душы вернікаў.

**А. Л. Гарошка.**

# Ваюючае бязбожжа

Сучаснае палажэньне больш чым калі вымагае ад вернікаў ня толькі добра ведаць сваю веру, але гак-жа і наступаючыя варожыя сілы, каб магчы ім дзейна супрацьставіцца.

З усіх дагэтулешніх ворагаў рэлігіі найбольшаю зацятасьцю вызначаюцца бальшавікі, бо ў іх бязбожжа лягло ў аснову дзяржаўнае сыстэмы. Яны абвесьцілі барацьбу з рэлігіяй на жыцьцё і на сьмерць. Прыняўшы марксавую тэорыю, што рэлігія гэта «опіюм для народу» і што гэты «опіюм» нарадзілі сацыяльныя адносіны, бальшавікі тэорэтычна плянавалі вынішчыць рэлігію проста і хутка зьнішчыўшы сацыяльныя карані рэлігіі. У практыцы аднак ваююць з рэлігіяй найбольш грубым спосабам насільства, гвалту і тэрору. Фальшывая тэорыя хварабліва фантазіі ў практыцы не сароmeeцца ніякага гвалту, а ў тэорыі ніякае хлусьні ані самаабману. Сёньня бальшавікі стаяць перад фактам, што тыя ўяўныя карані рэлігіі зьнішчылі, а рэлігіі не, дык апраўдваюцца, што маўляў: «У савецкім Саюзе зьліківідаваны сацыяльныя карані, якія родзяць і кормяць рэлігію, але... рэлігія вельмі начэпная і жывушчая, яна прадаўжае існаваць, як перажытак мінулага»1). Дзіўны гэты «перажытак», ён больш жывушчы, як тыя «сацыяльныя карані».

Варта прайсьціся па сьлядох ваюючых бязбожнікаў ,каб усьведаміць сабе ўсё тое гнобленьне, якое нясуць яны з сабою ўсюды, дзе дарвуцца да ўлады, гэта можа нас спанукаць да больш шчырага выконваньня сваіх рэлігійных практыкаў.

Яшчэ ў 1905 г. Ленін пісаў у артыкуле «Сацыялізм і рэлігія», што камуністычная «прапаганда неабходна ўключае прапаганду атэізму»2). Гэтую-ж думку ён паўтарыў з яшчэ большым націскам у артыкуле «Аб адносінах работніцкае партыі да рэлігіі»3). Сьледам за ім і Сталін у 1927 г. пісаў: «Партыя ня можа быць нэўтральнаю адносна рэлігіі і яна вядзе антырэлігійную прапаганду супраць усіх і ўсякіх рэлігійных забабонаў, таму што яна стаіць за навуку, а рэлігійныя забабоны йдуць супраць навукі»4). Гэтыя сказы і цяпер паўтараюць бальшавікі пры розных нагодах.

Але якая «навука» ў сапраўднасьці выступае супраць рэлігіі ў Савецкім Саюзе, няхай гавораць самыя факты. Тут падамо толькі важнейшыя з іх. Чаму абмяжоўваемся толькі важнейшымі фактамі? Бо іх ёсьць за шмат для часапіснага артыкулу, самыя толькі пастановы савецкага супрацьрэлігійнага заканадаўства твораць грубую кніжку, выданую Гудульянавым5). Храналёгічна гэтыя факты на абшары СССР выглядаюць так:

18.XII.1917 — адабрана ад Царквы мэтрычныя і шлюбныя кнігі.

20.XII.1917 — увядзеньне сьвецкага шлюбу, як адзіна праўнага.

23.I.1918 — выданьне дэкрэту «аб свабодзе сумленьня» г. зн. аб адзьдзяленьні Царквы ад дзяржавы.

За адзін толькі 1918 г. растрэлена 15 япіскапаў і шматлікіх сьвятароў.

1919 — пачатак прафанацыі мошчаў сьвятых.

1919 — за адзін гэты год закрыта 673 манастыры з агульнага ліку 825.

25.VIII.1920 — выданьне цыркуляру «аб адкрываньні мошчаў» і ліквідацыі іх.

26.XII.1921 — устанаўленьне цэнзуры казаньняў.

26.XII.1921 — дэкрэт аб канфіскацыі царкоўных скарбаў.

3.I.1922 — забарона навучаньня рэлігіі моладзі ніжэй 18 гадоў.

1922 — тайная пастанова аб разбураньні сьвятыняў пад прэтэкстам, што яны «заграмаджваюць пляцы і праезды».

1922 — цэлы рад пастановаў супраць духавенства: не даваць духоўным харчавых картак, не даваць памешканьня, наложаньне падаткаў на ствятыні, забарона трымаць царкоўныя грошы па-за банкам і інш.

1922 — масавыя арышты і растрэлы духавенства. За адзін гэты год замучана каля 8.100 духоўных і манахаў, у тым ліку 210 на Беларусі.

Усе супрацьрэлігійныя дэкрэты і злочыны робіць савецкі ўрад, як такі і ў імені ўраду. Толькі 20.IV.1925 г. адбываецца ў Маскве першы зьезд ваюючых бязбожнікаў і засноўваецца арганізацыя Саюз Ваюючых Бязбожнікаў (СВБ) на чале з Ем. Яраслаўскім (Губэльманам). У тым-жа годзе СВБ увайходзіць у склад Інтэрнацыяналу Пралетарскіх Вольнадумцаў.

1. Большая Советская Энциклопедия. Изд. 2., т. 3, стар. 353.

2. В. И. Ленин. Сочинения. Изд. 4-е, т. 10, стар. 67-68.

3. Там-жа, т. 15, стар. 375.

4. И. В. Сталин. Вопросы ленинизма. Изд. 10-е, стар. 192.

5. П. В. Гудулянов. Отделение церкви от государства в СССР. Полное собрание декретов, ведомственных распоряжений и определений Верхсуда РСФСР и других советских социалистических республик: УССР, БССР, РСФСР, Узбекской і Туркменской. Москва, 1926.

Найважнейшаю мэтаю СВБ была бязбожная прапаганда і ў гэтай дзейнасьці савецкая ўлада давала ім якнайбольш дзейную падтрымку, вядучы і далей са свайго боку бязбожны наступ у адміністрацыйным парадку.

У 1927 г. адначасна з першаю сталінскаю пяцігодкаю бязбожнікі плянуюць сваю першую пяцігодку — галоўны націск у ёй клаўся на збольшаньне ліку сяброў СВБ; яны плянавалі «да канца 1930 г. мець 4 мільёны сяброў, да канца 1931 — 7 мільёнаў, а да канца 1933 — 17 мільёнаў»6). Потым аб гэтай пяцігодцы зусім не ўспаміналі, бо яе ў ніводным пункце ня выканана. У сапраўднасьці лік сяброў СВБ павялічваўся паволі, а потым дык пачаў ападаць. У 1926 г. было 87.033 сяброў, 1927 — 183.402, у 1928 — 250.000, у 1929 — 465.498, а ўканцы гэтага году каля мільёну, у 1930 — 2 мільёны, у 1931 — 3,5 мільёны, а ў 1932 — 5 мільёнаў. Раптоўны ўзрост ліку сяброў быў выкліканы штучна пастановаю другога сусьветнага кангрэсу бязбожнікаў з 19.VI.1929, якая ўпаважняла прымаць у сябры СВБ дзяцей ад 14 гадоў. Да гэтага трэба дадаць, што ў 1931 г. было створана 1.686 агітацыйных брыгадаў з 9.085 агітатарамі. Ад 1929 г. існавала 34 антырэлігійныя музэі і больш паўсотні антырэлігійных унівэрсытэтаў. Ім на помач выходзіла ў 1932 г. 10 антырэлігійных газэтаў і 23 часапісы. За час ад 1927 да 1933 году выдана 1.132 назовы бязбожных кнігаў і брашураў у 22 розных мовах — тут не ўспамінаем, якая была іхняя вартасьць. Самыя лікі як-ні-як кажуць аб кіпучай дзейнасьці.

У гэтым-жа часе савецкі ўрад і далей выдаваў розныя адміністрацыйныя супрацьрэлігійныя дэкрэты.

8.IV.1928 — вышаў дэкрэт аб парахвіяльных камітэтах і абавязках т. зв. дваццаткаў.

1.X.1929 — новы дэкрэт аб правох і абавязках рэлігійных згуртаваньняў і аб абавязку паноўнае перарэгістрацыі. Пры гэтай нагодзе выявілася, што не зважаючы на ўсе дагэтулешныя мерапрыемствы на абшары СССР да канца 1929 г. зарэгістравалася 33.839 «рэлігійных згуртаваньняў усіх культаў». Праўда да рэвалюцыі іх было шмат больш: праваслаўных парахвіяў у 1915 г. налічвалася 54.174, каталіцкіх — каля 1.300 і па некалькі тысяч старавэрскіх, сэктанцкіх, магомэтанскіх, ізраільскіх і некалькі сот буддыйскіх. Восьжа зьнішчана ўжо было шмат, аднак вынік працы бязбожнікаў для іх быў больш чым нездавальняючы дык узмоцнілі насільствы. Толькі за адзін 1929 г. зачынена 740 сьвятыняў і ўтым-жа годзе канчаткова касуецца ўсякае права рэлігійнае прапаганды.

У 1930 г. паздымалі званы з усіх сьвятыняў. У гэтым-жа часе далучаецца яшчэ адзін грозны дзейнік — у выніку насільнае калектывізацыі абяднелае сялянства ня можа плаціць празьмерных падаткаў за сьвятыні — яны масава закрываюцца ў адміністрацыйным парадку. Агулам рахуецца, што ў 1930 г. аставалася менш чым 50 % адчыненых сьвятыняў.

Гвалты і зьдзекі падчас закрываньня сьвятыняў у 1930 г. былі такія, што аб іх не магла прамаўчаць нават самая-ж бязбожная прэса. Адзін праграмовы часапіс пісаў: «Рад арганізацыяў апошнім часам, магчыма няўпрыцям для сябе, перавёў усю дзейнасьць пераважна на кампанію закрываньня цэркваў, здыманьня званоў і пад. У радзе мест былі здарэньні перакручваньня ленінскае лініі ў пытаньні рэлігіі»7). Крыху пазьней той-жа часапіс мусіў прызнацца: «Дзе-ні-дзе на мейсцах можна сьцьвердзіць поўны развал работы СВБ» 8). Аднак самаадурманеньне ў радох СВБ ня спыняецца, хоць самі мусяць сьцьвердзіць, што «лікавы рост СВБ не адказвае сапраўднаму росту бязбожных настрояў у краі»9).

Характэрна для бязбожных намаганьняў, што падобныя сьцьверджаньні і прызнаньні ў сапраўднасьці нічога не зьмяняюць — гвалт над сумленьнем народных масаў прадаўжаецца далей.

Да 1931 г. у СССР кіраўніцтва рэлігійнымі справамі знайходзілася ў маскоўскім «Трэцім адзьдзеле сакрэтна-апэрацыйнае часьці ГПУ»; там сядзеў камуніст А. Е. Тучков са сваім штабам супрацоўнікаў, там плянаваліся ўсе новыя антырэлігійныя дэкрэты і там вырашалі справы усіх ерархаў, адтуль назначаліся адпаведныя ўпаўнаважаныя ўва ўсе адзьдзелы ГПУ. Ад 16.I.1931 г. створана пры савецкім урадзе «Культ-камісію» і туды перанесьлі ўвесь штаб Тучкова.

Маючы за сабою ўвесь савецкі дзяржаўны апарат, СВБ дня 5.V.1932 г. абвесьціў другую бязбожную пяцігодку. Яе праграма была распрацавана вельмі дакладна. У 118 пунктах намячаўся плян поўнага зьнішчэньня рэлігіі на абшары СССР. Матыў такое барацьбы быў вельмі просты: «бальшавізм ня можа разьвівацца ў рэлігійнай краіне». У паасобнасьці плян прадбачваў: 1932 г. — Закрыцьцё ўсіх рэлігійных школаў, асабліва выхоўваючых духавенства. 1933 г. — Ліквідацыя ўсіх манастыроў; выкіненьне ўсяго рэлігійнага з сямейнага жыцьця; забарона ўсякіх рэлігійных публікацыяў; прапаганда атэізму праз кіно. 1934 г. — Разбудова атэістычных арганізацыяў. Дэпартацыя ўсіх духоўных, якія ня выракліся сьвятарства. 1935 г. — Пératварэньне сьвятыняў у кіна, тэатры, клюбы і пад. 1936 г. — Умацаваньне здабытых пазіцыяў на полі антырэлігійнае барацьбы. 1937 г. — У межах СССР не павінна астацца і сьледу якоесьці рэлігіі; самое паняцьце Бога павінна быць зусім зьнішчана.

6. «Антирелигиозник», 1930 г. Нр. 4, стар. 3.

7. Там-жа.
8. Там-жа. Нр. 10, стар. 3.
9. Там-жа. Нр. 6, стар. 4.

Але што сталатся?

Другая бязбожная пяцігодка правалілася з нячуваным сорамам для яе арганізатараў. Праўда сьвятары і вернікі ўсіх рэлігіяў пацярпелі вельмі многа. Арышты і дэпартацыі лютавалі ўвесь час, сьвятыні масава зачыняліся. Толькі за адзін 1937 г. зачынена 1100 праваслаўных сьвятыняў, 240 каталіцкіх, 115 сынагогаў, 110 мэчэтаў і 61 лютэранскую бажніцу. На парахвіях рэдка дзе асталіся сьвятары, але рэлігійныя пераканамістр ў народзе існавалі нават мацней чым калісь. Дзіўна гэта, але правал бязбожнае пяцігодкі сьцьверджана ў найбольш дакумантальны спосаб. Уся савецкая прэса напярод хвалілася, што хутка выявяцца асягненьні камуністаў, калі абвешчана перапіс насельніцтва 6.І.1937 г. У апытальніках была рубрыка Нр. 5 з запытаньнем «Якое рэлігіі?» І вось вынік гэтага перапісу ніколі ня быў апублікаваны. Бязбожная прэса, якая напярод цешылася выяўленьнем свае перамогі, пасьля перапісу раптам замоўкла і толькі ў адным нумары «Антирелигиозника» з 1938 г. між іншым прагаварылася: «ворагі народу пралезьшы ў органы народна-гаспадарчага ўліку, пастараліся сарваць і замуціць гэты перапіс». Мусіла аднак быць надзвычайна шмат тых «ворагаў», бо армія перапісчыкаў была нязвычайна вялікаю.

З сяброўствам СВБ вышла яшчэ горш — уканцы пяцігодкі асталося ў радох СВБ толькі 1.949.722 сябры. Такога правалу ніяк нельга было абыйсьці моўчанкаю. Ужо і перш сям там адзываліся галасы засьцярогі, а цяпер яны пачуліся мацней. Яшчэ ў 1924 г. грузінская газэта «Заря Востока» з 19.XI Нр. 707 пісала: «Пытаньне аб цэркві вельмі часта разважалася ў нашай партыі. Былі прынятыя адпаведныя пастановы. Цяпер у нашай партыі няма ніводнага паважнага таварыша, які-б не ўважаў, што ў гэтай справе мы «перастараліся». Пленум ЦК пастанавіў направіць памылкі рашуча і радыкальна. Гутаркі аб тым, што селянін ня хоча царквы, што ён дабравольна пайшоў на закрыцьцё — гэта с а м а а б м а н. Аб неабходнасьці адкрыцьця цэркваў гаварылі нашыя сяляне. Трэба паправіць зробленую памылку... гэта значыць, даць магчымасьць кожнаму селяніну карыстацца царквою; адным словам, даць ім ключы ад царквы і няхай яны як хочуць, так і моляцца каму хаця»10).

Аб гэтай пастанове грузінскае кампартыі відаць даўно забыліся нават у самай Грузіі, калі-ж у часе пяцігодкі рэлігійныя гвалты дзеяліся з узрастаючаю жарстокасьцю, дык у 1935 г. ужо маскоўскае ЦК партыі пастанавіла: «Рашуча спыніць практыку закрываньня цэркваў у адміністрацыйным парадку, якую фіктыўна прыкрываюць агульна - дабравольным жаданьнем насельніцтва. Дапускаць закрыцьцё цэркваў толькі ў выпадку сапраўднага жаданьня аграмаднае большасьці сялян і ня інакш, як пасьля зацьверджаньня сходаў абласным выканкомам. За зьдзек над рэлігійнымі пачуваньнямі сялян і сялянак прыцягваць вінаватых да суровае адказнасьці»11).

Але крытыка крытакаю, а насільствы тварыліся далей. Тады самі бязбожнікі адважыліся пераглянуць сваіх «дзеячоў »і мусілі сьцьвердзіць вельмі няпрыемны для сябе факт, што нават у цэнтральных управах сядзелі людзі вельмі заганныя. Напрыклад у ЦК СВБ Азэрбайджанскае ССР з адзінаццаці чалавек толькі двох мелі больш, або менш дадатнія адклікі, а рэштэ гэта або нядысцыплінаваныя, або непрацаздольныя, або проста жулікі, кар'ерысты, падхалімы12). Бязумоўна, што ў арганізацыях людзі дабіраюцца адпаведна да ідэі, дык ня дзіва што такі быў склад управаў СВБ. Добрага рабіць яны не маглі нічога, але руйнаваць маглі і гэтым толькі займаліся; ды ў сапраўднасьці праца бязбожнікаў іншаю быць ня можа.

Насільствы ваюючых бязбожнікаў над людзкім сумленьнем выклікалі да СВБ агульную нянавісьць, дзеля гэтага калі ў 1941 г. немцы перайшлі савецкую мяжу і памаршыравалі на Маскву, а Сталін на гвалт быў змушаны мабілізаваць усе сілы на сваю абарону і нішчыць тое, што найбольш падкопвала бальшавіцкую ўладу, дык у першую чаргу зьліквідаваў СВБ і да таго з такім трэскам, што старшыня СВБ Яраслаўскі раптам памёр. Усе бязбожныя газэты і часапісы перасталі выходзіць.

Аднак самая бязбожнасьць ня зьнікла з бальшавіцкіх плянаў. На час вайны была спынена антырэлігійная прапаганда і нават адноўлены ў 1943 г. праваслаўны Маскоўскі Патрыярхат, у сапраўднасьці аднак зьмянілася толькі тактыка бязбожнікаў у паходзе супраць рэлігіі. На пачатку свае дзейнасьці бальшавікі спадзяваліся зьнішчыць рэлігію грубаю сілаю, дзеля гэтага яны былі адкінулі прапанову супрацоўніцтва праваслаўных сявятароў недаверкаў, якія некалькі разоў у гадох 1922-24 зьвярталіся ў ЦК камуністычнае партыі з прапановаю ўступіць у сябры і нават працктавалі зарганізаваць асобную камуністычную ячэйку «поп-ячэйку»13).

У 1927 г. бальшавікі зьмянілі сваё становішча і зажадалі ад праваслаўных ерархаў «ляяльнасьці» для сябе. Дня 29.VII.1927 г. намесьнік Маскоўскага Патрыярха міт. Сяргей апублікаваў сваё пасланьне аб зьмене царкоўнае палітыкі і прызнаньні савецкае ўлады — ад тады хто не далучаўся да м. Сяргея ішоў на ссылку. У 1928 бальшавікі налягалі, каб падобную дэкларацыю «аб ляяльнасьць» падпісалі каталіцкія ерархі і вымагалі

10. Паводля «Китеж». Нр. 8-12, 1927 г., стар. 49.

11. Ем: Ярославский. Борьба за преодоление религии. ГИЗ, 1935, с. 125. Паводля «Антирелигиозник», 1940. Нр. 2.

12. «Антирелигиозник», 1938 г. Нр. 8-9, стар. 6-7.

13. П. Милюковъ. Очерки по исторіи русской культуры. Парижъ, 1931, т. II, ч. I, стар. 237.

адмовіцца ад зносінаў з Апостальскім Пасадам але ніводзін каталіцкі сьвятар такое дэклярацыі не падпісаў дык бальшавікі адказалі масавымі арыштамі каталіцкага духавенства.

У паваенных абставінах бальшавікі яшчэ раз асноўна перабудавалі сваю сыстэму бязбожнае дзейнасьці. На мейсца Культ-камісіі ў 1942 г. зарганізавана Савет па Справам Расейскае Праваслаўнае Царквы пры Савеце Камісараў (потым Міністраў) Саюза СССР і гэткі-ж Савет па справам іншых веравызнаньняў. Гэтае вылучэньне Праваслаўнае Царквы кажа само за сябе, што на яе бальшавікі зрабілі асобную стаўку, ёй дазволілі ў 1943 і ў 1945 адбыць саборы для выбару патрыярхаў, дазваляюць выдаваць «Журнал Московской Патриархии». Праўда, за ерархію нават і гэтае ляяльнае Царквы вядуць моцны нагляд і напр. у 1949 г. «вычашчана» адразу 5 япіскапаў.

Як-бы ня была ляяльнаю нейкая Царква, усё-ж яна ня будзе весьці бязбожнае прапаганды, хоць можа сваімі бясчынствамі паважна кампрамітаваць рэлігію і зпоршваць вернікаў, дзеля гэтага бальшавікі, як толькі ачунялі ад ваенных ранаў, зноў распачалі бязбожны наступ на рэлігію, але ўжо ў зусім адменнай форме. На мейсца СВБ дня 7-VII-1947 г. заснавана ў Маскве Усесаюзнае Таварыства для Пашырэньня Палітычных і Навуковых Ведаў з акадэмікам С. І. Вавілавым на чале, а па яго сьмерці старшынства пераняў акадэмік А. І. Опарін. Тут ужо бязбожніцтва ня відаць ані ў назове, ані нават у праграме. Таварыства стараецца прыхаваць сваё бязбожжа плашчам навуковасьці і вернасьці ідэалёгіі камуністычнай партыі. Іхны часапіс «Наука и Жизнь» рэдка калі ўспамінае імя Бога, але зырка сочыць за ўсякімі адхіленьнямі ў бок ідэалізму ў савецкай прэсе. У сваіх лікавых справаздачах Таварыства заўсёды з асаблівым націскам падчырквае прысутнасьць у сваіх радох акадэмікаў і навукоўцаў. Кажацца напрыклад: у 1949 г. у Таварыстве было 165.000 сяброў, з іх 712 акадэмікаў; у 1950 г. было каля 200.000 сяброў, з іх 800 акадэмікаў і прафэсароў, 20.000 канд. навук і доцэнтаў. Бязбожная літаратура цяпер выходзіць пераважна ў акадэмічным выданьні.

Сёлета 7.VII Таварыства ўрачыста азначала пяцігодзьдзе свайго існаваньня. З гэтае нагоды савецкая прэса апублікавала спэцыяльныя артыкулы аб дзейнасьці Таварыства, хвалячыся, што за пяць гадоў яно наладзіла аж 2.614.000 дакладаў, якіх слухала 54 мільёны асобаў. Даклады былі на тэмы: мэдыцынскія, літаратурныя, міжнародныя і навукова-атэістычныя; з іх выдана 2.700 брашураў.

Распісваючыся аб сваіх асягненьнях, старшыня Таварыства А. І. Опарін, ня можа не зацеміць: «Аднак у рабоце Таварыства ёсьць яшчэ нямала недахопаў. Галоўны з іх заключаецца ў тым, што ідэйна палітычны ўзровень некаторых лекцыяў і выдаваемай літаратуры ў радзе выпадкаў яшчэ нявысокі»14).

Побач Таварыства па пашырэньню палітычных і навуковых ведаў найбольш актыўна вядзе бязбожную прапаганду Камсамол. Выходзяць шматлікія кніжкі ў выдавецтве «Молодая твардия» ў якіх на рэлігію вядуць самую зацятую атаку, падчыркваюць, што «рэлігія была і ёсьць рэакцыйнаю ідэалёгіяю», «Рэлігія ад пачатку да канца супрацьставіцца сьветагляду савецкага чалавека»15). І да гэтага ўсяго да сёньняшняга дня не даецца ніякае магчымасьці выдаваць аполёгэтычна-абароннае літаратуры і агулам забаронена ўсякая рэлігійная прапаганда.

З вышэйпералічаных фактаў бачым, што рэлігійнае жыцьцё на абшары СССР і ўсіх падбальшавіцкіх краінаў выстаўлена на паважную пробу і небясьпеку. Палюдзку бяручы, там для рэлігіі прышласьць рысуецца ў вельмі чорных колерах, але варта крыху ўважней прыглянуцца да справаздачаў хоць-бы таго-ж сучаснага бязбожнага Таварыства, пераглянуць іхныя нараканьні на бязьдзейнасьць большыні сяброў, на нізкі ўзровень іхных дакладаў, каб пераканацца, што рэлігійных імкненьняў і пачуцьцяў нельга вырваць зусім з душы чалавека, нельга назаўсёды стрымаць палёту людзкога духа да свайго Стварыцеля. Вялікую праўду казаў калісь Я. Купала: «Можаш, княжа, караць, галаву можаш зьняць; ня скуеш толькі дум ланцугамі». Рана ці позна, але прыйдзе час, калі тыя ланцугі лопнуць. Гэты час залежыць шмат і ад нашага становішча — ад нашых ахвярных учынкаў і перадусім ад шчырае і вытрывалае малітвы.

**А. Дарожны.**

---

14. «Звязда», 6-VII-1952 г. Нр. 159.
15. П. Колоницкий. Мораль коммунистическая и мораль религиозная. «Молодая гвардия», 1952, стар. 26.

# Беларусь у бязбожным агні

У агульных рысах наступ бязбожнікаў на рэлігію на абшары Беларусі прайходзіў праз усе тыя этапы, што і на абшары ўсяго СССР (глядзі папярэдні артыкул), бо ў БССР з невялікімі зьменамі абавязвалі ўсе агульнасавецкія супрацьрэлігійныя законы і дэкрэты, але іхняе выкананьне на Беларусі мела некаторыя асаблівасьці.

Першы супрацьрэлігійны наступ на Беларусі распачаўся адразу пасьля сканчэньня бальшавіцка-польскае вайны. Праўда і ў часе гэтае вайны былі шматлікія выпадкі растрэлу духавенства, асабліва каталіцкага, але гэтыя бясчынствы афіцыяльна

прыпісваліся на рахунак вайны. Пасьля вайны ўжо распачаўся адкрыты і рашучы наступ супраць рэлігіі. Але вельмі характэрны факт, што на Беларусі бязбожную дзейнасьць пераважна вялі чужынцы, толькі моладзь, якая трапляла пад іхні ўплыў, далучалася да іхняе дзейнасьці. Напрыклад прафанацыю мошчаў сьв. Еўфрасіні ў 1922 г. даканалі полацкія курсанты і чырвонаармейцы1).

Ува ўсім СССР ,а тым самым і ў БССР быў вельмі крывавы 1922 год. Пад прэтэкстам забіраньня царкоўных каштоўнасьцяў для помачы галадаючым, бальшавікі аграбілі ўсе сьвятыні і безьлітасна стралялі духавенства. За 1922 г. згінула ў Бабруйскай губ. 29 духоўных, у Магілёўскай 61, у Менскай 49, у Смаленскай 62; разам 201 духоўных рознага стану.

У наступным 1923 г. з тае-ж прычыны бальшавікі арыштавалі Магілёўскага рым.-каталіцкага мітр. Я. Цепляка і 14 найбольш актыўных каталіцкіх сьвятароў розных нацыянальнасьцяў. У днёх 21-26 сакавіка адбыўся ў Маскве над імі суд. Самога мітрапаліта і прэлата К. Буткевіча засуджана на сьмерць, іншых пераважна на 10 гадоў турмы. Гэты прысуд выклікаў цэлую буру пратэстаў ува ўсім сьвеце. Тагачасная савецкая ўлада, адчуваючы сваю слабасьць, пад націскам пагрозьлівых пратэстаў замяніла сьмяротны прысуд мітр. Цепляка на 10-годную турму, а прэлата Буткевіча растралялі 30-III-1923.

Каб усьведаміць усю трагічнасьць рэлігійнае сытуацыі на Беларусі, трэба памятаць, што гэтая сытуацыя яшчэ перад кастрычніцкай рэвалюцыяй была жалюгоднай. І ў Праваслаўнай і ў Каталіцкай Цэрквах на Беларусі кіруючыя становішчы займалі чужынцы. У выніку іхняе дзейнасьці між сьвятарствам было мала нацыянальна сьведамых беларусаў. Ды агулам тады яшчэ беларускі адраджэнскі рух ня быў дастаткова моцным. Трэба такжа не забывацца, што царская ўлада адносна Каталіцкае Царквы была заўсёды настроена варожа, і калі яшчэ сяк-так мірылася з польскасьцю ў каталіцызьме, дык супраць беларускасьці выступала з няпрымірымай варожасьцю. У 1916 г. на абшары ўсяе Беларусі нарахоўвалася каля 2.430.000 каталікоў, іх абслугоўвала 911 сьвятароў у 456 парахвіях з 137 філіялямі і 162 капліцамі ў трох епархіях. З гэтага ў межах БССР знайшлося 1.036.000 каталікоў у 221 парахвіі з 88 філіялямі і ўсяго 412 сьвятароў.

Праваслаўная Царква на Беларусі ў 1915 г. нарахоўвала калў 8,5 мільёнаў вернікаў у 8 епархіях, з іх у межах БССР знайшлося толькі 4 епархіі і адна ў РСФСР — усе яны мелі каля 2.800 парахвіяў і 3.600 сьвятароў і каля 7 мільёнаў вернікаў.

Зусім лягічна можна было-б прыпушчаць, што дзякуючы сьвятаром-чужынцом, а так-жа чужому духу, які яны ўносілі ў рэлігійнае жыцьцё, на Беларусі магла стварыцца паважная магчымасьць для бязбожнае дзейнасьці. Аднак у сапраўднасьці гэтая дзейнасьць, як недарэчная сама ў сабе і праціўная разумнай натуры чалавека, у беларускіх масах знаходзіла вельмі мала пасьлядоўнікаў.

Арганізацыя Саюзу Ваюючых Бязбожнікаў (СВБ) была заснавана на Беларусі ў 1925 г. Першымі арганізатарамі СВБ былі расейцы і пераважна жыды. Адказным сактарам ЦС СВБ у БССР доўгі час быў Долгопалов. Аб пачатковай стадыі дзейнасьці СВБ у БССР цяжка знайсьці якія весткі. Уласьцівы антырэлігійны наступ ішоў з камуністычнае партыі, а СВБ займаўся ў першую чаргу прапагандаю. У 1931 г. СВБ на абшары БССР нарахоўваў 195.000 сяброў у 3.100 ячэйках і 100.000 юных бязбожнікаў2). У тым-жа часе на Смаленшчыне было 73.298 сяброў у 1558 ячэйках3). Для ладжаньня бязбожных кампаніяў у 1931 г. у БССР была зарганізавана 30 агітбрыгадаў з агульным лікам 180 агітатараў.

Бачым, што ў рады СВБ камуністы змаглі затнаць пэўную колькасьць людзей, але што да працы гэтае арганізацыі дык з боку ЦС СВБ у Маскве пад адрасам СВБ на Беларусі чуліся безустанныя нараканьні і дакоры. Дэлегат з Віцебскага адзьдзелу СВБ нехта Шуцкі ў 1930 г. на паседжаньні ЦС СВБ у Маскве казаў: «не хапае кадраў. Мы ня бачым навучных работнікаў, хоць яны былі ўведзены ў Цэнтральны Савет... навучныя работнікі ў нас на мясцох не бяруць абсалютна ніякага ўдзелу ў антырэлігійнай рабоце. Ува ўсёй Віцебскай акрузе з 40 членаў прафэсуры працуе (у СВБ) толькі адзін» 4).

Аб працы ў Гомельскай акрузе скаржыўся ў Маскве гомельскі камсамолец Піцкель: «У вёсках антырэлігійнай працы не вядзецца... у нас у Гомелі акруповы савет бязбожнікаў... не памагае вёсцы, каб «разаблачаць» шкоднасьць рэлігіі... Адносна цэркваў, дык мы (у Гомелі) забралі тры цэрквы... але ў гэтай працы школьнікі дамагаліся закрыцьця больш энэргічна чым работнікі... Трэба заўважыць, што мы зусім ня маем помачы з боку нашых настаўнікаў і Цэнтральнага бюро юных піянэраў Беларусі, яно ня цікавіцца працаю бязбожнікаў» 5).

Падобны стан быў усюды на абшары БССР і ў сумежных землях. На старонках антырэлігійнае прэсы не ўспамінаецца ніводная беларуская акруга, як прыкладная. Адначасна гэтая-ж прэса на кожным кроку выяўляе нехаця, што націск у бязбожнай дзейнасьці йшоў звонку.

Для ўздыму бязбожнае дзейнасьці 11-2-1930 забавязана спаборнічаць БССР з Смаленшчынаю, але гэта не дало пажаданых вынікаў. У 1931 г.

1. «Витебския известия», 7.VII. 1922, Нр. 127.

2. «Антирелигиозник», 1931, Нр. 8, стар. 100,
3. Там-жа. Нр. 9, стар. 41.
4. Там-жа. 1930, Нр. 4, стар. 111.
5. Там-жа. Нр. 6, стар. 100.

у Маскве ўсе бязбожніцкія арганізацыі БССР і Смаленшчыны названа «параўнаўча адсталымі» 6).

Засьляпленьне людзей часта пераходзіць усякія межы, так было і з бязбожнаю дзейнасьцю. Бязбожныя верхаводы замест таго, каб убачыць сапраўдную прычыну правалу бязбожнае дзейнасьці ў нутранай недарэчнасьці самога-ж бязбожжа, шукалі ахвяраў, на якіх маглі-б зваліць усю адказнасьць за «няўдачы». У 1930 г. адбывалая першая масавая жудасная ліквідацыя беларускае інтэлігэнцыі ў БССР пад прэтэкстам «нацдэмаўшчыны». Агэнты НКВД да нязьлічаных «злочынаў» беларускае інтэлігэнцыі дадаюць і той, што нацдэмы ня толькі не займаліся антырэлігійнай працай, але дзе маглі, дык баранілі рэлігію. Пад рэдакцыяй С. Я. Вольфсона пішуць Л. Баровіч, Н. Шпілеўскі, М. Грынблят і А. Ляўданскі: «Шкодніцтва нацыянал-дэмакратаў на гэтым (антырэлігійным) вучастку музэйнага фронту перавышае ўсякія меры. Замест антырэлігійнай работы, замест выкрыцьця клясавае сутнасьці і эксплёататарскай і контррэволюцыйнай ролі рэлігіі, нацыянал-дэмократы ператвараюць музэі ў ачагі царкоўнай прапаганды» 7). Крыху далей тыя-ж аўтары кажуць: «Праз музэй ідзе насаджваньне царкоўшчыны ў масы і асабліва ў школы. І ўсё гэта вядзецца пад назовам «антырэлігійнае» работы» 8). А на іншым мейсцы: «Беларускія нацдэмы вельмі шанавалі царкву, на яе ўскладалі не малыя надзеі, як на клясавага саюзьніка» 9). Далей закідаюць нацдэмам, што ніколі не пакідалі думкі аб незалежнай Беларускай Аўтакефальнай Царкве і асабліва накідаюцца на тое, што стараліся стварыць «адзіную рэлігію для ўсіх беларусаў» 10). Шмат ёсьць у гэтай кніжны Вольфсона ганблючых зваротаў пад адрасам беларускае падсавецкае інтэлігэнцыі. Тыя закіды шмат абцяжылі і так цяжкі крыж, які ўзлажыла бальшавіцкая рука на скатаваныя плечы беларускае інтэлігэнцыі. Для іх бальшавікі плялі крывавы вянок, але мімаволі гэтыя і падобныя закіды ёсьць вянком чэсьці для беларускае падсавецкае інтэлігэнцыі трыццатых гадоў — яны на шлях бязбожнікаў не пайшлі; народныя масы тымбольш да бязбожнікаў ня прысталі.

Нацдэмаў зьліквідавалі, але праз гэта бязбожная праца анічуць не ўзмаглася. У 1932 г. з Масквы выслалі ў Менск спэцыяльнага інструктара па антырэлігійнай дзейнасьці, а потым выклікалі ў Маскву Долгополова адказнога сакратара ЦС СВБ Беларусі. Зноў пасыпаліся нараканьні на кадры, на недатрыманьне 6 умоваў Сталіна ў дабіраньні работнікаў і агулам на «арганізацыйную слабасьць і няўмельства ЦС СВБ Беларусі ачолівац стыхійна ўзрастаючае бязбожжа» 11). Паробленa цэлы рад новых пастановаў, але новага яны ня прынесьлі нічога — гэта быў пачатак другое бязбожнае пяцігодкі.

Каб прыкрыць правал антырэлігійнае дзейнасьці адноўлена грубае насільства ў закрываньні сьвятыняў і дэпартацыі духавенства. У савецкай прэсе сталіся частымі такія весткі: «У Бабініцкім сельсавеце царква перарабляецца на клюб» 12). «У савхозе «Форпост» пад клюб прыладжана былая царква» 13). «У мястэчку Узда 517 работнікаў пастанавілі закрыць сынагогу за яе контррэволюцыйную прапаганду» 14). Гэтыя весткі падхоплівў «Антирелигиозник» і яму падобныя часапісы, насьвятляючы іх, як асягненьні антырэлігійнае дзейнасьці. Але самазразумела, што ўсіх насільстваў, якія дзеяліся над рэлігійнымі пераканаьнямі насельніцтва, бязбожная прэса не падавала, аднак і закрыць іх ня магла. Ёсьць факт, што ўканцы 1938 г. на абшары тагачаснае БССР не асталося ніводнае адчыненае сьвятыні ніякага веравызнаньня. Але ці гэта магло сьведчыць аб бязбожных настроях у народзе? На аснове самое-ж бязбожнае прэсы можна сказаць: рашуча не! Бо-ж сам СВБ на Беларусі ў 1938 г. быў у поўным развале. «Антирелигиозник» Нр. 12 з 1928 г. падаючы агульную статыстыку сяброў СВБ, кажа, што з 15 краёў і рэспублікаў няма даных — у тым ліку і з Беларусі.

Яшчэ больш ясна выявілася ўся павярхоўнасьць бязбожных «асягненьняў» з мамэнтам выбуху другое сусьветнае вайны. Тады, дзе толькі была якая магчымасьць, насельніцтва з найбольшаю ахвярнасьцю адбудоўвала і ўпрыгожвала сьвятыні, выконваючы масава сьвятыя Тайны. Дый сам СВБ афіцыяльна быў разьвязаны ўканцы 1941 г. гэтым самым выдаючы зьнішчаючы прысуд усёй сваёй дзейнасьці.

Калі пасьля сканчэньня другое сусьветнае вайны жыцьцё пачало сяк-так увайходзіць у мірныя каляіны, бязбожнікі зноў паднялі сваю галаву. Але цяпер яны ўжо ня мелі адвагі паказваць выразна сваё сапраўднае аблічча, дык сарамязьліва прыхаваліся ў новай арганізацыі «Таварыства па Пашырэньню Навуковых і Палітычных ведаў», заснаванае у Маскве ў 1947 г. Сёлета 7-VII гэтае Таварыства па ўсім Савецкім Саюзе ўрачыста азначала пятыя ўгодкі свайго існаваньня.

З гэтае нагоды зьявіліся некаторыя весткі аб дзейнасьці таго бязбожнага Таварыства на Беларусі. У БССР яно аб'ядноўвае звыш 18.000 сяброў і за пяць гадоў наладзіла 173.900 лекцыяў, якіх

6. Там-жа. Нр. 9, стар. 40.
7. С. Я. Вольфсон, «Навука», на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі. Беларуская Акадэмія Навук. Інстытут Філёзофіі. Менск, 1933, стар. 218.
8. Там-жа.
9. Там-жа, стар. 222.
10. Там-жа, стар. 226.

11. «Антирелигиозник», 1932, Нр. 23-24, стар. 46.
12. «Віцебскі пролетары», 17.XI.1937.
13. «Великолукская правда», 28.XI.1937.
14. «Кальгасьнік Узьдзеншчыны», 24.VIII.1937. Паводля «Антирелигиозник», Нр. 8-9, с. 51.

выслухала 14.179.286 чалавек. Дзіўна аднак, што зноў паўтараецца амаль дасло́ўна старая гісторыя з СВБ. Зноў сыплюцца тыя самыя нараканьні.

У Пінскай вобласьці ў Таварыстве ёсьць 1.299 дзейных сяброў і сябро́ў спаборнікаў, але нават палавіна з іх ня чытала ніякіх дакладаў, а да таго большая частка прачытаных дакладаў была на вельмі нізкім узроўні. У Горадзенскай вобласьці лік сяброў не падаецца, кажацца толькі: «Многія члены Таварыства рэдка выступаюць перад насельніцтвам, лекцыі чытаюцца на нізкім ідэйным узроўні»15). З Віцебскае вобл. карэспандэнт «Звязды» Н. Пашкевіч піша, што ў вобласьці «Зусім не арганізуюцца лекцыі па філасофіі. Недаацэньваецца антырэлігійная прапаганда» 16).

Адказны сакратар Таварыства па Гомельскай вобласьці В. Гусакоў хваліцца, што яго адзьдзел нарахоўвае 1.600 членаў, з іх каля 650 правадзейныя члены, 76 навуковыя работнікі і што «ў гэтым годзе былі прачытаны цыклі лекцыяў на міжнародныя, мэдыцынскія, навукова-атэістычныя і літаратурныя тэмы»... але «Буйнейшым недахопам у нашай рабоце зьяўляецца тое, што зьмест значнае часткі лекцый, іх тэарэтычны ўзровень ўсё яшчэ не адпавядаюць высокім запатрабаваньням працоўных... Многія члены Таварыства да тэтага часу толькі лічацца ў сьпісках і ніякай работы па пашырэньню ведаў сярод насельніцтва не праводзяць» 17).

З іншых акругаў няма зусім ніякіх вестак, а для азначэньня пяцігодзьдзя існаваньня Таварыства ў «Звязьдзе» быў надрукаваны артыкул не якогась «беларускага» члена Таварыства, але самога такі галоўнага старшыні Таварыства маскоўскага акадэміка Опаріна 18).

Калісьці маскоўскія бязбожныя верхаводы ў сваёй закамянеласьці наракалі на іншых, што тыя нездавальняюча скакалі пад іхнюю дудку, цяпер яны ўсюды панасылалі сваіх вымуштраваных агэнтаў, прыкрылі сваю дзейнасьць навуковым плашчам, зьмянілі тактыку, але недарэчнасьць бязбожнасьці ад гэтага нічуць не зьмянілася. І так цяжкое жыцьцё пад бальшавіцкаю ўладаю абцяжаецца бязбожным насільствам, а на Беларусі яно тымбольш даймаючае, што спалучана з нацыянальным прыгнечаньнем.

**А. Дарожны**

15. «Звязда». Нр. 170, 19.7.1952.
16. Там-жа. Нр. 206, 30.8.1952.
17. Там-жа. Нр. 174, 2.7.1952.
18. Там-жа. Нр. 159, 6.7.1952.

# Пабожныя рэлігійныя практыкі

**(Заканчэньне да тэмы «Рэлігійныя крывулі нашае інтэлігэнцыі)**

### Недаверак студэнт і Пастэр.

Уканцы мінулага стагодзьдзя аднойчы ў цягніку, які выходзіў з Парыжа, было такое здарэньне. У перадзел вагону, дзе сядзеў пажылы, але звонку вельмі скромны чалавек, сусьветнае славы вучоны, увайшоў малады і бадзёры студэнт. Цягнік рушыў. Студэнт і старэйшы спадарожнік занялі мейсцы адзін супраць другага. Студэнт чытаў парыскія часапісы і пераглядаў нейкія кніжкі з мэдыцыны. Старэйшы спадарожнік быў у задуменьні, кудысьці загледжаны, але не ў хуткамінаючыя краявіды.

Раптам у старэйшага чалавека штосьці выпала з рук проста да ног студэнта. Студэнт хутка нагнуўся падняць упаўшую рэч і моцна зьдзівіўся, калі ўбачыў, што гэта быў ружанец (чоткі). Спадарожнік рабіў на яго ўражэньне інтэлігэнта і... у ягоных руках знайшоўся ружанец.

— Ці вы яшчэ верыце ў нешта падобнае? — кідае пытаньне студэнт.

— О, так, я ў малітву веру моцна і яна памагае мне ў працы.

— Але-ж сучасная навука выразна паказала, што Бога няма і што гэта пустыя выдумкі несьмяротнасьць душы...

— Якая навука? — перабівае спадарожнік.

— Фізыка, мэдыцына, дый усе іншыя — хутка адказвае студэнт.

Распачалася доўгая гутарка на мэдыцынскія тэмы. Студэнт ледва верыў сваім вушам, калі старэйшы чалавек паясьняў прыгожа і глыбока апошнія асягненьні з галіны мэдыцыны, але ўсё-ж уканцы прабаваў абстойваць свае бязбожныя пагляды.

Калі цягнік зьбліжаўся да станцыі і старэйшы падарожны зьбіраўся выходзіць, студэнт з вялікаю пашанаю зьвярнуўся да яго:

— Вы мне так спадабаліся сваею глыбокаю ведай, дык пазвольце спытацца, ці можна ведаць ваша прозьвішча?

— О, так! Калі ласка, я называюся Пастэр.

Цэлы рой новых думак зьявіўся ў студэнта. Паважаны вучоны, якога знае і шануе ўвесь сьвет і тут... яго скромная фігура і той ружанец... Усё гэта мітусілася ў ягонай маладой галаве і ўканцы ён мог сьцьвердзіць, што кароткае падарожжа з Пастэрам яму адчыніла нешта новае, чаго ён яшчэ баяўся назваць паімені.

### Знак сьвятога Крыжа.

Пабожныя хрысьціянскія практыкі, якіх ёсьць шмат, не належаць да істоты рэлігіі — гэта праўда, але трэба пагадзіцца з тым, што яны ёсьць праяўленьнем рэлігійных пераканаканьняў навонках. Так, як жэст рукі, скіраванае да нейкае рэчы, ёсьць паказьнікам, што туды накіравана на-

шая ўвага і думка, падобна і пабожныя рэлігійныя практыкі ёсьць выяўленьнем таго, што нашыя перакананьні скіраваны да Бога.

Адною з старэйшых і найпрыгажэйшых практакаў ёсьць знак сьв. крыжа. Крыж ёсьць знакам адкупленьня Хрыстом людзкога роду ад улады граху, знакам перамогі Бога-Чалавека над сьмерцю. Ап. Павал пісаў: «Мне-ж няхай ня здарыцца хваліцца, хіба толькі крыжам Госпада нашага Ісуса Хрыста, якім для мяне сьвет укрыжаваны і я для сьвету» (Гал. VI. 14).

Ад найдаўнейшых часоў хрысьціяне ўжывалі для асьвячаньня свайго будзённага жыцьця знаку сьв. крыжа. Тэртуліян, каторы жыў у гадох 160-250, пісаў: «Ва ўсіх нашых падарожжах і рухах, ва ўсіх нашых прыйсьцях і адыходах, адзяючы вопратку і абутак, пры купаньні, пры стале, запальваючы нашыя лямпы, перад сном, ды пры кожным іншым занятку мы кладзём знак крыжа на нашым чале». Падобны факт сьцьвярджае сучасьнік Тэртуліяна Орыген (185-255).

Будзьма шчырыя і спытайма сябе: як у нас абстаіць справа са знакам сьв. крыжа перад ядой, перад сном і нават у сьвятынях на багаслужэньні?

Калі недаверак ня хрысьціцца, дык гэта адказвае ягоным перакананьням, але дзіўна, што трапляюцца і між веруючых людзей такія, што ў прысутнасьці іншых саромяюцца перахрысьціцца. Такія паводзіны сьведчыць аб маладушнасьці, бо людзі шчырыя і адважныя не баяцца выказваць, а дзе трэба дык і бараніць сваіх перакананьняў. Прыкладам гэтага можа быць выпадак з францускім маршалам Фошам (1851-1929) на ўрачыстым афіцыяльным банкеце, дзе былі прысутныя найвышэйшыя дзяржаўныя і вайсковыя дастойнікі. Перад тым як пачаць есьці маршал як звычайна пабожна перахрысьціўся, але тут-жа заўважыў, што некалькі бязбожнікаў на другім канцы стала пачалі насьміхацца з гэтага рэлігійнага знаку. Тады, нічога ня кажучы, маршал выняў з кабуры два набітыя рэвольвэры, палажыў іх спакойна на стале, так каб усе іх маглі бачыць, а потым спакойна, адвярнуўшыся ў бок тых бязбожнікаў, другі раз старанна і набажна перахрысьціўся. Гэтым разам ужо ў нікога ня было ахвоты насьміхацца.

Сёньня ня трэба аж гэткае адвагі маршала, каб перахрысьціцца, бо ў вольным сьвеце яшчэ ўмеюць шанаваць перакананьні іншых, а перакананьні беларусаў павінны быць згодныя з найстарэйшаю беларускаю традыцыяю, паводля якое кожнае пачынаньне ў жыцьці суправаджалася знакам сьв. крыжа, аб гэтым хіба-ж лішне было-б доўга расьпісвацца.

Пашана да знаку сьв. крыжа выплывае з найглыбейшых асноваў хрысьціянства. Крыж ёсьць найбольш характэрным знакам хрысьціянства, дык хто яго пасаромееца мусіць ведаць, што тым самым саромецца Хрыста. Аб гэтым кажа Сам Хрыстос: «Хто паўстыдаецца Мяне і Маіх слоў, таго і Сын чалавечы паўстыдаецца, калі прыйдзе ў славе сваёй і Айца і сьвятых ангелаў» (Лук. IX, 26). Знак сьв. крыжа перад кожным нашым пачынаньнем зьяўляецца найлепшым напамінам слоў апостала: «І ўсё, што-б вы не рабілі, словам або дзелам, ўсё рабеце ў імя Госпада Ісуса Хрыста, дзякуючы праз Яго Богу і Айцу (Калас. III, 17) якраз аб гэтым і сьвеячыць знак сьв. крыжа, калі яго суправаджаем словамі: У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа.

### Штодзенныя малітвы.

Наша цела да жыцьця патрабуе пажывы і мы прымаем яе некалькі раз дзенна, але і душа ня можа аставацца галоднай. А малітва ёсьць адной з вельмі сытных пажываў для душы.

Формы і віды малітвы ёсьць розныя. Шмат ёсьць малітваў устаноўленых Царквою, але для асаблівых патрэбаў кожны вернік можа проста зьвяртацца да Бога сваімі словамі.

Між усіх малітваў найпрыгажэйшаю ёсьць «Ойча наш». Гэта малітва, якую даў нам сам Хрыстос. З вялікаю прыкрасьцю і сумам прыходзіцца сказаць, што пішучаму гэтыя радкі здаралася спаткаць так між сваіх суродзічаў, як і сярод іншых нацыянальнасьцяў людзей, якія ўважаюць сябе за хрысьціян, аднак зусім ня ведалі «Ойча наш».

Знак нашых часоў — абыякавасьць — з аднаго боку, а бязбожжа з другога боку вырываюць з людзкіх душаў ўсё, што зьвязана з Богам, з рэлігіяй. Адначасна з гэтым жыцьцё становіцца штораз цяжэйшым і ўсё больш прыгноблюючым. Здавалася-б, што «Ойча наш» ня мае нічога супольнага з агульным пагоршаньнем жыцьця, бо якое адношаньне гэтае малітвы да таталітарных сыстэмаў, да крыклівых часапісаў, да радыё, да атамнае бомбы? Адношаньне вельмі паважнае, бо праз тую малітву, праз якую вызнаём аднаго Бога Айцом нябесным усіх людзей, лічым сябе Ягонымі дзяцьмі, мы прызнаём агульнае сваяцтва. Паміж дзяцьмі аднаго бацькі павінна быць згода і любоў.

У «Ойча наш» мы просім Усемагутнага, каб нам, слабым людзям, дапамог уладзіць Божае валадарства на зямлі, гэтым самым мы адкідаем несправядлівасьць, з якое-б крыніцы яна не паходзіла.

«Ойча наш» можна ня толькі адмаўляць, але і разважаць над кожным словам гэтае малітвы. Там знайходзіцца нявычарпальны зьмест Божае праўды.

Пасьля «Ойча наш» найбольш ведамай малітвай ёсьць «Прывітана будзь Марыя». Кароценькая гэта малітва але вельмі прыгожая. Зложана яна са слоў прывітаньня архангела, прывітаньня сьв. Альжбеты і з закліку даданага Царквою ў XV ст.

Між усіх сьвятых Марыя мае найбольшую і асаблівую пашану, як маці Збавіцеля. Яна — пацяшыцелька ўбогіх, надзея гаротных, сіла муча-

нікаў, абарона пакрыўджаных, патронка нязьлічаных вёсак і гарадоў; на Беларусі ведама больш 50 цудатворных абразоў Багародзіцы. Колькі праз заступніцтва Марыі людзі атрымалі ласкаў, толькі адзін Бог ведае.

«Ад вякоў нячувана — кажа сьв. Бэрнард — каб той, хто да Твае абароны ўцякае і Твае помачы просіць, каб быў табою апушчаны». Таму слушна кажа пабожны паэт аб Марыі:

Бедны той, хто ня знаў Цябе ад роду,
Ніколі ня славіў Твайго іменьня,
Ды той бяднейшы, хто піў грэх, як воду
І гардзіць спамогай Тваёй да збаўленьня.

### Малітаўнікі.

Каб хрысьціянін мог больш акуратна выконваць свае рэлігійныя практыкі, друкуюцца дапаможныя кніжкі — малітаўнікі. Дзякаваць Богу і мы, беларусы, на нястачу малітаўнікаў наракаць ня можам; на эміграцыі былі выданы два і абодва бяз цяжкасьцяў можна здабыць. Там кожны знойдзе ў сваёй роднай мове малітвы на кожную патрэбу і катэхізмовую навуку.

Невялічкая кніжка — малітаўнік — гэта верны прыяцель чалавека і ў дома і ў сьвятыні; ён дае шчырую раду, як трэба гаварыць з Богам.

Бязумоўна, што для тых людзей, якія ведаюць шмат малітваў напамяць, малітаўнік ня ёсьць неабходным у сьвятыні; так-жа тыя, што ўмеюць маліцца сэрцам, могуць лёгка абыйсьціся бяз малітаўніка, але звычайна ён вельмі карысны для кожнага, бо хто яго мае з сабою, той ня будзе блукаць думкаю няма ведама дзе.

### Малемся ў роднай мове.

Бог нідзе і ніколі не азначаў людзям, якою моваю да Яго зьвяртацца, але аднаго жадае ад людзей, каб малітва да Яго была шчырая. Але з гэтага якраз і выплывае, што найлепш маліцца ў роднай мове.

Тут засьцерагаемся, што гутарка йдзе аб прыватнай малітве, бо ў афіцыяльных літургічных малітвах Царква ўжывае мёртвыя мовы (лацінскую, грэцкую, царкоўна-славянскую і інш.). Ёсьць шмат прычынаў, якія прамаўляюць за такою практыкаю, але гэта не адносіцца да закранёнае тэмы, бо тут гутарымо аб прыватнай малітве верніка.

У прыватнай малітве ўсё прамаўляе за тым, што да Бога выпадае зьвяртацца ў сваёй роднай мове, бо-ж перадусім трэба разумець самому, з чым да Бога зьвяртаемся, а найлепш ўсё разумееш у роднай мове, ды як-жа Бога можна было-б называць Айцом, калі-б да яго трэба было зьвяртацца ў чужой мове!?

Колькі польскія ксяндзы не намагаліся, каб прызвычаіць беларуса-каталіка маліцца папольску, аднак калі прыходзілі паважнейшыя мамэнты ў жыцьці беларуса, калі ён зьвяртаўся да Бога, як да апошняе надзеі, дык ягоныя вусны гаварылі так, як дыктавала сэрца і як ён пўтарыў у штодзенным жыцьці.

Ёсьць у нас некаторыя песьні-малітвы, якія стагодзьдзямі кармілі душу нашага народу, і нельга іх забывацца. Успомніць хоць-бы тую старую песьню, якую калісьці часта пяялі пры розных нагодах і якая дадавала сілы тым, што йшлі на ссылкі ў Сібір і нават тым, якія пралівалі кроў за Хрыста:

О, мой Божа, веру Табе
І ўсё веру я для Цябе.
Усю надзею ў Табе маю,
За ўсё Цябе выхваляю...

Да таго калядныя, вялікодныя і нязьлічаныя іншыя рэлігійныя песьні зьяўляюцца нашым вялікім скарбам, з якога можна і трэба чэрпаць духовую пажыву для душы.

На заканчэньне хачу сказаць з націскам: хто моліцца часта пабеларуску за Беларусь, той добры патрыёт, а хто ніколі ня моліцца за Беларусь, а толькі крычыць аб Беларусі, ёсьць кепскім хрысьціянінам і слабенькім беларусам.

**а. Ч. Сіповіч.**

# Хто сее вецер, той жне буру

Дзіўная была натура ў Кірылы Крата, ён толькі й думаў аб тым, як нешта зрабіць на зло. Ці сабацы хвост абкарнаць, ці кату рашчэп даць, ці чый агарод спляндраваць, ці курам чэмеру падкінуць ці пасварыць каго, ці да бойкі зьвесьці, ці якую іншую шкоду змайстраваць — лепшага «майстра», як Кірыла нельга было знайсьці. Здавалася, што ён толькі й жыў думкаю, як каму найбольш спрытна каверзу ўдзеяць. На гэта не шкадаваў ні грошай, ні часу.

І на валовай шкуры ня сьпісаў-бы ўсіх Кірылавых учынкаў. Цярпелі ад яго і блізкія і далёкія, свае і чужыя, але і сам ён ніколі ня быў задаволены ці таму, што можа не асягнуў вяршка майстэрства ў сваіх ліхадзействах, ці таму, што яму сумленьне не давала супакою — гэтага ніхто ня мог разгадаць.

У недалёкім мястэчку зьявіўся бедны цырульнік. Аднойчы ў кірмашны дзень, Кірыла праходзячы каля цырульні, прыгледзеўся, як цырульнік стрыжэ машынкаю валасы і адразу хуценька накіраваўся за мэстэчка насыпаў сабе ў валасы пяску і прыходзіць у цырульню.

— Пастрыжы мяне — кажа цырульніку.

Той нічога ліхога не дагадваючыся, запусьціў машынку ў кірылавы валасы, але адразу ў машынцы нешта затрашчала, хутка выхапіў яе назад, але ўжо зусім шчарбатую.

Іншым разам, было гэта ў нядзелю раніцаю, злавіў Кірыла шчупака (любіў ён часта рыбачыць)

і вяртаючыся з ракі дамоў, прысеў на прызьбе да гурта мужчын. У гурце быў прымак Апанас, што толькі нядаўна прыстаў у прымы з нейкае ляснoе вёскі і ніколі яшчэ рыбацтвам не займаўся. Таму што Апанас з цікавасьцю глядзеў на шчупака, дык нехта на сьмех параіў Кірылу падараваць шчупака Апанасу, і Кірыла дзіўна ахвотна выканаў раду і сам сеў праваруч ля Апанаса ды кажа:

— Ты мусіць яшчэ ня ведаеш, якія зубы ў шчупака?

— Не, ня ведаю.

— Вось памацай — раіць Кірыла.

Апанас левaю рукою рашчаміў шчупаковy зяпу і пальцам правае рукі асьцярожна дакрануўся да вострых шчупаковых зубікаў. Але тут Кірыла калі штурхне ў локаць правае рукі, апанасаў палец увесь залез у зяпу, правая рука мімаволі сьціснула шчупакову зяпу, зашчэмліваючы палец. Апанас з болю рвануў палец назад, але ён ужо быў увесь парэзаны і акрываўлены.

Падобныя гісторыі здараліся калі не штодня, дык прынамся штотыдня. І хоць як па майстэрску Кірыла плянаваў свае ліхадзействы, але ў іх было адно слабое мейсца: ён не прадбачваў, што ягоныя ліхадзействы адным канцом білі па ім самым, часам нават горш, як па іншых.

Быў у вёсцы адзін заядлы зьвералоў. І вось ён аднае зімы надумаўся стрыхнінаю лісоў труціць. Кірыла даведаўся, дзе той параскідаў атрутныя галушкі і аднойчы, як толькі чуць пачало займацца на сьвет, пайшоў пазьбіраў тыя галушкі і пазатоптваў іх у сьнег, толькі адну на нейкае ліха закруціў у анучку і палажыў сабе ў кішэню. Прышоўшы дамоў, нічога нікому ня кажучы, ён павесіў свой каптан на крукy, а сам вышаў у каморку. Кірыліха толькі пачынала запальваць у печы, а дачка бралася заціраць зацірку. Скончыўшы сваю работу, дачка вымыла ложку, якою цэрла галушкі, і шукала сухое анучкі, каб абцерці яе. Тут яна ўбачыла вытыркаючую шматку з кішэні бацькавага каптана дык доўга ня думаючы выцягнула яе і выцерла ложку, трымаючы яе над міскаю. Пры тым атручаная галушка вывалілся проста ў міску з заціркаю.

Калі паселі сьнедаць, дык Кірыла сёрбаў зацірку найбольш заядла, ведама прамёрзшы. Але раптам у яго замітусілася ў вачох, дзецям так-жа зрабілася нядобра. Кірыліха толькі бралася за ложку, як Кірыла асалавеўшы асунуўся ёй на пляча. Яна падняла гвалт, прыбеглі суседзі і хутка прымчалі былшага ваеннага санітара. Той заставіў усіх «зьезьдзіць да рыгі», потым і лепшая помач зьявілася і неяк удалося ўсіх выратаваць. Зацірку вылілі на двор. На яе накінуліся галодныя вароны, але за якія паўгадзіны яны канaлі за вёскаю. Людзі доўга шукалі і дапытваліся, што за такое ліха магло быць у зацірцы, аж пакуль Кірыла, ачуняўшы спытаўся, ці ёсць анучка ў яго каптане. Тут выявілася, дзе раніцаю хадзіў Кірыла і што ён рабіў. Некаторыя шкадавалі, што суседзі выратавалі на сваю голаву каверзьніка. Агуламжа вяскоўцы цешыліся, што ліхадзей так пакараў сам сябе, а найбольш сьмяяўся стары Сымон. Як на бяду Сымон жыў на водшыбе за вёскаю. Каб хоць на кім колечы спагнаць сваю злосьць, Кірыла надумаўся спаліць сымонаў сьвіран. Выбраў ён адну спакойную ноч і падлажыў пад страху сьвірна доўгі запалены кнот з пачкам запалак. А поўначы па вёсцы забегалі вартавыя крычучы:

— Пажар, пажар!

Сьвіран гарэў, як сьвечка. Таму што ў сьвірне звычайна знаходзіцца найбольшае сялянскае багацьце, дык Кірыла сьмяяўся калі пабачыў, што Сымон амаль нічога ня выратаваў са свайго сьвірна. Але нядоўгі быў кірылаў сьмех. Як разгарэўся сьвіран, пачаў дзьмуць вецер і што найгорш, дык дзьмуць проста на вёску. Калі ў сьвірне завалілася столь, з сярэдзіны пачалі вырывацца кускі гаручага сала. Людзі з мокрымі анучамі пазалазілі на стрэхі найбліжэйшых будынкаў і лавілі лятаючыя сьветачы, але вось адзін кусок узьняўся вельмі высока і паляцеў у кірунку вёскі ды ўпаў якраз на кірылава гумно. І трэба-ж здарыцца такой бядзе, што на розе страхі ў гумне была невялікая дзірка; вось якраз туды зваліўся палымнеючы чусок і ўпаў на торп сена. Пакуль дабеглі да гумна людзі, пакуль яго адамкнулі, дык ужо полыме ўзяло ў свае пражорлівыя абыймы ўвесь дабытак Кірылы.

Але ўсе гэтыя і падобныя прыкрасьці былі для Кірылы толькі паўбяды. Вось на старасьць пачала яму адрыгацца ўся абуза мінулага жыцьця. У вёсцы ня было амаль ніводнага чалавека, якому-б ён мог спакойна глянуць у вочы, а найгорш дык было ў сваёй хаце. Калі падняліся дзеці, дык сваркі і лаянкі ў кірылавай хаце ніколі ня спыняліся, а часам дзела даходзіла і да чубоў. У гэткіх перапалках і самому Кірылу даводзілася атрымаць ад дзяцей неаднаго штурханца. Кірыліха галасіла штодня, а Кірыла пачаў уцякаць з хаты і агулам ад людзей.

Ня маючы на кім спагнаць свае злосьці, ён нідзе не знайходзіў сабе мейсца і хадзіў як сам ня свой. У такіх муках ён і не заўважыў узрастаючае болі ў жываце. І толькі аднаго дня, калі пасьля абеду яго вырвала з крывёю і шалёны боль у страўніку не даваў яму супакою, Кірыла паехаў да лекара, але ўжо было запозна. Выявілася, што ўвесь страўнік быў апанаваны ракам. Час-ад-часу Кірылу давалі ўколы марфіны, каб злагодзіць боль, але як толькі мінала дзеяньне марфіны, дык жутка станавілася ў кірылавай хаце ад незмаўкаючых енкаў. Якісьці нявымоўны кашмар заваладаў у гэтай хаце і доўга ён ня зьнікаў нават пасьля хаўтураў па Кірыле.

**А. Жменя.**

# Кангрэс „Pax Romana“

Дваццаць другі кангрэс «Pax Romana», які адбыўся сёлета ў Канадзе (Торонто, Монтрэаль, Квэбэк) паміж 22 жніўня і 1 верасьня, зусім заслужана зьвярнуў на сябе ўсеагульную ўвагу. Прычынаю гэтага быў бяз сумніву ягоны міжнародны характар.

На Кангрэсе было 555 афіцыяльных прадстаўнікоў, якія рэпрэзэнтавалі 43 народы, між якімі знаходзілася так-жа і Беларусь (прадстаўнік ад БАКА «Рунь»), аднак з абсэрватарамі і гасьцямі налічвалася да 800 удзельнікаў. Галоўная тэма Кангрэсу была: «Заданьне унівэрсытэту». Праца — як гэта звызайна бывае на падобных кангрэсах — вялася ў камісіях, якіх у гэтым Кангрэсе было аж 9. І тут засум зразумелы жаль беларускага дэлегата праф. др. В. Жук-Грышкевіча, што зашмат было важных мейсцаў ,на якія ён адзін ня мог разарвацца.

Чаму так сталася, што на Кангрэс прыбыў толькі адзін беларускі дэлегат? Ці гэта недагляд з боку управы «Руні»? У даным выпадку не! Галоўная управа БАКА «Рунь» рабіла шмат стараньняў, каб у З. А. Ш. зарганізаваць свой адзьдзел, але без пажаданага выніку. Там ёсьць нямала беларускае каталіцкае інтэлігэнцыі і ёсьць некалькі сяброў «Руні», але далёка расьцярушаных. Управа «Руні» зьвярталася да некалькі асобаў, каб згадзіліся ўдзельнічаць у Кангрэсе, але адны з іх не захецелі нават адказаць на лісты, а іншыя згадзіліся паехаць, але чамусьці свайго абяцаньня ня выканалі.

Цяпер пасьля Кангрэсу павінна быць ясна беларускай каталіцкай інтэлігэнцыі ў З. Ш. А., што іхняя пасыўнасьць прыносіць вялікую шкоду так для рэлігійнае, як і для беларускае нацыянальнае справы і бязумоўна гэтую шкоду неабходна направіць чымхутчэй.

Калісьці наракаў у «Бацькаўшчыне» беларускі дэлегат на Кангрэсе Журналістаў у Бэрліне на нядбайлівасьць беларускае інтэлігэнцыі ў падрыхтоўцы да так важнага Кангрэсу — з нязменшым жалем прыходзіцца гаварыць аб недацэньваньні вялікае працы і замалым удзеле беларускае інтэлігэнцыі ў міжнароднай каталіцкай арганізацыі «Pax Romana». Гэтая арганізацыя ў зьменшаным маштабе ёсьць Арганізацыяй Аб'една́ных Нацыяў. Тут мейсца для Беларусі ёсьць прызнанае і то для Беларусі не такое, якую жадалі-б бачыць нашы ворагі, але якую прэдстаўляем мы — яе сыны.

Сёлетні дваццаць другі Кангрэс у Канадзе быў для нас першым, на якім мы былі як роўныя з роўнымі, як «праўныя» браты ўсіх іншых народаў. Тут з прыемнасьцю трэба сьцьвердзіць, што праф. др. В. Жук-Грышкевіч годна рэпрэзэнтаваў БАКА «Рунь» ,аб чым зьявіліся весткі нават у іншанацыянальнай прэсе.

На заканчэньне Кангрэсу была прынятая вельмі зьмястоўная дэкларацыя, у якой між іншым чытаем: «Унівэрсытэт ёсьць інстытуцыяй, якая паводля слоў Сьвяцейшага Айца, што Ён іх быў ласкавы даслаць для Кангрэсу, павінна стацца ў поўным значэньні слова праменюючым цэнтрам інтэлектуальнага жыцьця.

Такое вышэйшае ўзгадаваньне апіраецца на інтэгральным разуменьні чалавека і яго мейсца, якое займае ў грамадзе, так-жа на дакладным паняцьці самое праўды. Яно імкнецца, як да ўласьціване мэты, даць студэнту ў кожнай галіне веды, якую ён выбраў, такое паняцьце чалавека і рэчаў, дзе-б быў захаваны праўдзівы маштаб вартасьцяў і дзе-б ён на толькі загартаваўся, што мог-бы выйсьці пераможна з усіх ідэолёгічных спакусаў, не пакідаючы адначасна людзкога духа па-за лініяй ўсякага прагрэсу... Насільныя прасьледаваньні — гэты трагічны і асаблівы праяў нашых часоў — накладаюць на унівэрсытэты вольных краінаў асаблівыя абавязкі і вымагаюць хуткіх ды практычных вырашэньняў адносна тых культурных прыгнечаных сем'яў, якія трапілі ў вольны сьвет.

Што да паўсюднага крызісу ідэяў, вынікам чаго ёсьць вышэйўспомненая эміграцыя, дык каталіцкія унівэрсытэты будуць старацца супрацьдзейнічаць яму праз адпаведную пажыву для душ і сэрцаў маладога пакаленьня і то такім чынам, каб яно не займела тэй пустэчны, якая няўхільна прыцягвае наезд фальшывых ведаў...»

**а. Ч. С.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### СЬВЯЦЕЙШЫ АЙЦЕЦ АБ КАМУНІЗЬМЕ.

Прымаючы дня 13-Х на асобнай аўдыенцыі сяброў Італьянскае Каталіцкае Акцыі, Сьвяцейшы Айцец Пій XII заявіў, што сучасны сьвет загрожаны гвалтоўным і падступным ворагам і што неабходна затрымаць таго ворага, «каб ён ня сеяў руінаў і сьмерці». Паіменна гэнага ворага Сьвяцейшы Айцец не назваў, але азначыў яго зусім дакладна: «Сёньня Атыльля знайходзіцца між намі і стараецца ўвесьці разлад у містычным целе Хрыста... Небясьпека пагражае ня толькі Італіі, але ўсяму сьвету».

### КАТАЛІЦКІЯ ДНІ Ў БЭРЛІНЕ.

Ад часу падзелу Бэрліну на акупацыйныя зоны і ўзмацненьню халоднае вайны калішняя сталіца Нямеччыны сталася цэнтральным фронтам гэтае вайны. То з аднаго, то з другога боку там ладзяцца розныя маніфэстацыі, зьезды і канфэ-

рэнцыі. Таму што ў савецкай акупацыйнай зоне палажэньне рэлігіі горшае з дня на дзень, дык ня дзіва, што Каталіцкія Дні, якія адбыліся ў брытанскай зоне Бэрліну між 22-24 жніўня пад клічам «Бог жыве» былі цэнтрам увагі ня толькі немцаў каталікоў, але агулам ўсяго сьвету. На адкрыцьці ўдзельнічала каля 100.000 чалавек і ў тым каля 80.000 з савецкае зоны, а наступнага дня на Алімпійскім стадыёне сабралася больш 200.000 чалавек, каб прысутнічаць на ўрачыстай Службе Божай, якую адправіў апостальскі нунцый у Нямеччыне Я. Э. Мюнх. На заканчэньне Каталіцкіх Дзён прамаўляў да прысутных праз радыё Сьвяцейшы Айцец. Удзельнікі разьяжджаліся дамоў з узмоцненаю надзеяю і вераю, што ім Бог дасьць сілы пераможна перατрываць сучаснае ліхалецьце.

### АЎСТРЫЙСКІ КАТАЛІЦКІ КАНГРЭС.

Сёлета першы раз пасьля сканчэньня вайны быў зарганізаваны ў Вене дня 14-IX Аўстрыйскі Каталіцкі Дзень пад клічам: «Царква змагаецца за правы асобы і за ўласнасьць». На гэтую імпрэзу сабралася больш ста тысяч удзельнікаў. З гэтае нагоды Сьвяцейшы Айцец зьвярнуўся да аўстрыйскага народу з заклікам, у якім гаворыць з асаблівым націскам аб неабходнасьці ажыцьцяўленьня каталіцкае сацыяльнае навукі ў штодзенным жыцьці.

### АКТУАЛЬНАСЬЦЬ САЦЫЯЛЬНЫХ ПРАБЛЕМАЎ.

На дваццацьпятым Італьянскім Каталіцкім Тыдні, які сёлета адбыўся ў Торіне між 23-29 верасьня і меў праводную тэму «Прадпрыемствы ў мадэрнай эканоміі», усе прэлегенты выказвалі думку, што для вырашэньня сацыяльнага пытаньня неабходна дапусьціць працоўных да ўдзелу ў адказнасьці і эканоміі прадпрыемстваў.

### МІЖНАРОДНЫЯ СПАТКАНЬНІ СЬВ. СЭБАСТЫЯНА.

Спыненыя ў часе гішпанскае хатняе вайны міжнародныя спатканьні каталіцкае інтэлігэнцыі сьв. Сэбастыяна, зноў аднавіліся ад 1947 г. і адбываюцца штогод на пачатку верасьня ў Гішпаніі. Сёлета такое спатканьне адбылося між 6-12 верасьня і мела праводную тэму «Дачасная дзейнасьць хрысьціянізму». На Спатканьні ўдзельнічалі найбольш ведамыя каталіцкія дзеячы з 22 дзяржаваў.

### СПРАВА ГІШПАНСКІХ ПРАТЭСТАНТАЎ.

Гішпанія гэта амаль суцэльна каталіцкая краіна. Там пратэстантаў ёсьць усяго каля 20.000 і то пераважна чужынцоў. Але ад некаторага часу ў амэрыканскай і эўрапэйскай прэсе пэўнага кірунку зьявіўся рад артыкулаў, якія стараюцца разьдзьмухаць справу праўнага палажэньня пратэстантызму ў Гішпаніі да паважных разьмераў. Супраць гэткіх намаганьняў ужо некалькі раз уздымаў свой голас Сэвільскі кардынал Я. Эм. Сэгюра. Нядаўна ён дамагаўся ад дзяржаўных дзейнікаў афіцыяльнага выясьненьня гэтае далікатнае справы, каб праз яе канчатковае палагоджаньне палажыць канец непажаданым падбухторваньням звонку.

### ЗЬЕЗД ДУШПАСТЫРАЎ КАТАЛІЦКАЕ АКЦЫІ.

Францыя ад вякоў ведамая сваімі пошукамі ў галіне новых кірункаў, душпастырскае дзейнасьці. Ужо ад даўжэйшага часу ў Францыі ёсьць вельмі актуальным пытаньне больш дзейнага спосабу душпастырства між працоўнымі масамі і ў гэтым кірунку вядуцца вельмі сьмелыя экспэрымэнты, якія потым студыююцца ў большых і меншых кругох. Каб падзяліцца сваімі думкамі і досьледамі некалькі сот душпастыраў Каталіцкае Акцыі між Працоўных мелі сваю сэсію дня 17 верасьня ў Вэрсалі. Там-жа перад тым адбывался падобная сэсія душпастыраў Хрысьціянскае Працоўнае Моладзі. Такія сэсіі, канфэрэнцыі і зьезды для вымены думак і абагульненьня досьледаў прычыняюцца паважна да актывізацыі духовага жыцьця.

### ЭКУМЭНІЧНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ЛЮНД.

Сёлетняя экумэнічная канфэрэнцыя, якая трывала 15 дзён і закончылася 6 верасьня ў Люнд (Швэцыя), зьвярнула на сябе большую ўвагу чым падобныя папярэднія канфэрэнцыі, бо на ёй упяршыню экумэнічны рух займаўся такімі далікатнымі пытаньнямі, як: розьніца веравызнаньняў сяброў канфэрэнцыі; Царква — Яе прырода, адзінасьць, цяглась цяглась і Яе цэнтр — Сьвятая Вячэра. Так-жа першы раз у гісторыі экумэнічнага руху на Канфэрэнцыі прысутнічалі хоць толькі як абсэрватары чатыры афіцыяльныя каталіцкія дэлегаты.

Люнндская Канфэрэнцыя, падобна як і папярэднія, ня выдала ніякіх абавязуючых пастановаў, але яна намеціла некаторыя вытычныя для далейшае дзейнасьці. Удзельнікі Канфэрэнцыі стаяць перад фактам, што для развязаньня рэлігійных праблемаў патрэбны час, магчыма нават доўгі, бо разьдзіраць заўсёды і ўсюды шмат хутчэй, як сшываць.

### НЯМЕЦКІЯ БІСКУПЫ СУПРАЦЬ КАМУНІЗМУ.

На сваёй канфэрэнцыі ў Фульдзе нямецкія каталіцкія біскупы сёлета 8 верасьня выдалі супольны ліст да вернікаў, у якім пералічаюць усе супрацьрэлігійныя і асабліва супрацькаталіцкія выступленьні ўсходня - нямецкае камуністычнае ўлады.

### АДНАЎЛЕНЬНЕ МАНАСТЫРА НА МОНТЭ КАСІНО.

Зьнішчаны ў часе апошняе вайны бэнэдыктынскі манастыр на гары Монтэ Касіно ў Італіі сёлета ўжо на толькі адноўлены, што яго зноў занялі

айцы бэнэдыктыны. Для беларусаў гэты манастыр ведамы ня толькі тым, што там на гары злажылі сваё жыцьцё некалькі сот беларусаў, але так-жа і тым, што ў манастыры правіцца рэгулярна Служба Божая за палеглых беларускіх жаўнераў.

### У БАЎГАРЫІ СУДЗЯЦЬ ДУХАВЕНСТВА.

Ад 29 верасьня да 3 кастрычніка ў Софіі адбываўся вялікі судовы працэс супраць 40 асобаў, абінавачаных у «шпіёнстве і змове супраць дэмакратычнае баўгарскае ўлады на карысьць Францыі і Ватыкану». Між абвінавачанымі было 24 каталіцкіх сьвятароў і адзін біскуп. Суд прайходзіў паводля савецкае сыстэмы і закончыўся жарстокім прысудам: біскупа Я. Э. Аўгеня Боссілкова і сьвятароў Е. Шішкова, В. Емкова і П. Джіджова засуджана на сьмерць, іншых на розныя кары ад 10 да 18 гадоў турмы. Засуджаных на сьмерць растрэлена. Сам суд і прысуд сьведчаць вымоўна аб заядласьці бальшавікоў, з якою яны намагаюцца зьнішчыць уплыў Каталіцкае Царквы ў падуладных дзяржавах.



Нарач — найбольшае беларускае возера

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### Ажыўленьне на выдавецкай ніве.

Сёлета беларуская пэрыядычная прэса на эміграцыі ў параўнаньні да мінулага году значна ажывілася, але нажаль з такімі-ж праявамі, якія былі выбухлі ў 1948 г. Ад пачатку году да верасьня месяца зьявілася агулам 30 назоваў беларускіх газэтаў і часапісаў, у тым ліку аж 19 новых.

Непэрыядычная прэса так-жа значна ажывілася ў параўнаньні да мінула году. Вельмі карысную выдавецкую дзейнасьць распачало Згуртаваньне Беларусаў у Монтрэалі, перавыдаючы беларускія сцэнічныя творы.

### БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Русыфікацыйны наступ узмацняецца.

Уся савецкая так расейская, як і «беларуская» прэса дае штораз новыя доказы ўзрастаючага русыфікацыйнага наступу на Беларусі падобна як і ў іншых савецкіх рэспубліках. Сёлета ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце на ўсіх факультэтах новаўступаючыя студэнты мусілі здаваць іспыты «па рускай мове і літаратуры, беларускай мове», беларускае літаратуры ведаць ня вымагаюць. Толькі на філялягічным факультэце вымагаюць так-жа злажыць іспыт і з беларускае літаратуры, але і там на першым мейсцы стаіць расейская мова і літаратура.

Новазарганізаваныя біблятэкі ў гарадох і вёсках складаюцца амаль выключна з расейскіх кніжак. У некаторых бібліятэках нават і ўспаміну няма аб беларускіх кніжках. Напр. «Звязда» Нр. 195 з 17-VIII-1952 паведамляе: «У в. Камаровічы Капыткевіцкага р. адкрыта новая бібліятэка... Біблі-

ятэка налічвае некалькі сот твораў класікаў рускай літаратуры і савецкіх пісьменьнікаў». У тым-жа нумары «Звязды» ёсьць фатаграфія «кніжнага магазіну», дзе камсамолка выбірае падручнікі для новага навучальнага году, у яе руках і на паліцах відаць толькі расейскія кнігі. Далей у тым-жа нумары газэты якісьці І. Матвеенка публікуе вялікі артыкул: «Вялікі рускі народ — выдатная нацыя і кіруючая сіла ў СССР» — тут ужо выяўляецца ясна, што па ўсім СССР русыфікацыйны наступ такі вялікі, што ўжо і хаваць няма чаго, як гэта рабілася перш. Наймацнейшы наступ ідзе праз школу. У беларускіх школах усяго толькі назоў астаўся, што яны «беларускія», а выклады вядуцца амаль выключна парасейску, падручнікі так-жа пераважна расейскія. Напрыклад «Звязда» з 13-VII паведамляла: «У гэтым годзе прадугледжана прывезьці ў Пінскую вобласьць 105 назоваў падручнікаў у рускай мове і 67 у беларускай». Усе кіруючыя становічшы абсаджаны расейцамі, новаабраны ЦК камуністычнае партыі БССР складаецца выключна з расейцаў і амаль усе расейцы першыя сакратары Воблкомаў. Так выглядае на практыцы «нацыянальная па форме БССР».

## АРГЭНТЫНА.

### З арганізацыйнага жыцьця.

Пасьля летняга перапынку Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне дня 20-IX з нагоды Дня Моладзі ажывіла сваю арганізацыйную дзейнасьць, ладзячы сяброўскую вечарынку, на якую сабралася шмат ня толькі моладзі, але і старэйшых з новае і старое эміграцыі.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Аднаўленьне бюлетэню.

Згуртаваньне Беларусаў у Аўстраліі пасьля гадавога перапынку зноў пачало выдаваць свой Інфармацыйны Бюлетэнь, пад новай рэдакцыяй.

## ГІШПАНІЯ.

### Гішпанская прэса аб Беларусі.

У ілюстраваным гішпанскім часапісе «Bilbao Champo» Нр. 8-9 зьявіўся прыгожы інфармацыйны артыкул аб Беларусі Я. Сурвілы пад загалоўкам «Mi patria Bielorussia» з трымя беларускімі краявідамі.

## З. Ш. А.

### Ні міжнародным фэстывалі.

У Дэтройце 24 жніўня на стадыёне «Кэйворт» адбыўся міжнародны фэстываль песьняў і танцаў. Удзельнічалі ў ім: баўгары, беларусы, нэгры, палякі, сірыйцы і украінцы. Зацікаўленьне фэстывалем было даволі вялікае, да гэтага паважна прычыніліся рэкляма ў прэсе і радыё. Беларусы з Дэтройту першы раз выходзілі на міжнародны выступ, але выступілі годна. Беларуская народная песьня і танцы выклікалі сапраўдную буру воплескаў і агульнае зьдзіўленьне, займаючы першае мейсца ў фэстывалю.

### Студэнцкі Зьезд у Нью Ёрку.

Сёлета 2 верасьня адбыўся другі гадавы Зьезд сяброў Беларускага Студэнцкага Таварыства ў З. Ш. А. Перад адкрыцьцём Зьезду япіскап БАПЦ уладыка Васіль адслужыў малебень у намераньні студэнтаў. Пасьля адкрыцьця і выбару прэзыдыі Зьезд віталі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў у З. Ш. А. Справаздача ўступаючае ўправы выказала, што БСТ узрасло колькасна і памацнела матэрыяльна. У гэтым акадэмічным годзе большасьць сяброў БСТ знайшла магчымасьць прадаўжаць свае студыі, або іх распачаць. Уканцы выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — П. Манькоўскі, сябры ўправы — Г. Ганчарэнка і Ю. Станкевіч. Пясьля Зьезду адбылася сяброўская бяседа для ўдзельнікаў і госьцяў.

### 90-ыя ўгодкі беларускае пэрыядычнае прэсы.

Галоўная ўправа Саюзу Беларускіх Журналістаў у Брукліне парабіла стараньні для азначэньня 90-ых угодкаў выхаду ў сьвет першае беларускае газэты «Мужыцкая праўда».

## КАНАДА.

### Дактарат з беларускае літаратуры.

Беларускія навуковыя кадры сёлета ўзбагаціліся яшчэ адным доктарам. У канадзкім унівэрсытэце ў Аттаве праф. В. Жук-Грышкевіч дня 26 ліпеня выдатна абараніў перад жюры славістаў сваю дактарскую дысэртацыю на тэму: «Лірыка Янкі Купалы», атрымоўваючы навуковы тытул доктара філязофіі.

## ФРАНЦЫЯ.

### Новы адзьдзел А. Б. Р. Ф.

Ужо ад даўжэйшага часу адчувалася паважная патрэба беларускае арганізацыі на поўначы Францыі, дзе пражывае вялікая колькасьць беларусаў расьцярушаных па большых і меншых гарадох Норду і Па-дэ-Калэ. Ідучы на сустрэчу гэтай пякучай патрэбе, ініцыятыўная група беларускіх работнікаў, дзякуючы актыўнай помачы беларускіх студэнтаў з Лэвэну, сёлета 28 верасьня склікала арганізацыйны Зьезд. З гэтае нагоды прыехаў у Туркуэн а. Аўгень Смаршчок душпастыр БАПЦ у Бэльгіі з часткаю Беларускага Студэнцкага Ансамблю пад кіраўніцтвам праф. М. Равенскага і а гадз. 11 ў памешканьні Хрысьціянскага Сындыкату адправіў Службу Божую.

Папалудні таго-ж дня ўсе дэлегаты і госьці сабраліся ў салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Рубэ. На Зьездзе прысутнічаў так-жа гэнэральны скратар CFTC для Рубэ і ваколіц і прадстаўнікі ад украінскіх мяйсцовых арганізацыяў. Перад адкрыцьцём Зьезду хор студэнтаў адсьпяваў малітву «Магутны Божы» і некалькі народных песьняў. Адчыніў Зьезд прывітальным словам старшыня ініцыятыўнае групы Я. Лазута. Віталі так-жа Зьезд францускія і украінскія госьці. Далей вёў Зьезд інж. Л. Рыдлеўскі. Азнаёміўшыся з сучасным палажэньнем працоўных агулам і беларускім у

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.

Directeur : Abbé L. Horosco.

асаблівасьці, прысутныя пастанавілі заснаваць Беларускі Адьдзел Хрысьціянскага Сындыкату Працоўных (CFTC) для Паўночнае Францыі, выбіраючы ўправу новага Адьдзелу ў такім складзе: старшыня — Я. Рамаmaking, сакратар — Я. Лазута, скарбнік — Ул. Каштэлян. Рэвізійная Камісія: старшыня — Я. Чэрвінскі, сябры — Ул. Качан і М. Калесьнікевіч. У пляне працы на бліжэйшую будучыню намечана правесьці рэгістрацыю беларусаў на абшары свае дзейнасьці.

# Абразкі з жыцьця

### ТАЁМНЫ СКАРБ.

У японскім горадзе Шікоку адзін стары шляхоцкі род меў якісьці таёмны скарб, захаваны ў невялікай скрыначцы. Трыста гадоў ніхто не заглядаў у тую скрыначку, бо быў пераказ, што хто загляне ў скрыначку, за кару асьлепне. Толькі ў 1925 г. найстарэйшы ў родзе наважыўся выясьніць тайну скрыначкі і адчыніў яе. На вялікае зьдзіўленьне ўсіх, там знойдзена толькі абразок якоесь «Жанчыны» з подпісам «Сьвятая Марыя» і чоткі. Але пры гэтым выявілася, што той «скарб» паходзіць яшчэ з тых часоў, калі першыя каталіцкія місіянары зьявіліся ў Японіі, тады продкі ўспомненага роду былі прынялі хрост, але ў часе крывавага прасьледаваньня, якое пачынаючы ад 1587 г. трывала больш паўстагодзьдзя, загінулі мучаніцкаю сьмерцю першыя японскія вернікі, у тым ліку і продкі таго роду. Як дробнае зернятка першых засеўкаў хрысьціянства нехта з продкаў схаваў абразок Маці Божае і чоткі ў «таёмную» скрыначку і перадаў яе патомкам, дзе і захоўваўся дбайліва той няведамы «скорб» цэлыя стагодзьдзі. Жыцьцёвая сіла таго дробнага зернятка ня зьнікла, бо ўсе сямейнікі ўспомненага роду зноў сталіся вернымі дзяцьмі Каталіцкае Царквы і абраз Маці Божае заняў у іхным доме самае пачэснае мейсца.

### «У ДАРОГУ».

Паводля адвечнага звычаю беларускі старанна перахоўваюць найлепшую вопратку ў кубле і там на дне звычайна ляжыць найпрыгажэйшая кашуля прызначаная на сьмерць.

Аднойчы летам бабулька перасушвала ўсё сваё дабро, захаванае ў кубле, а ўнукі з цікавасьцю прыглядаліся да прыгожых тканінаў і адзеньня. Уканцы бабулька выняла цудоўна вышытую сарочку і паказваючы яе найстарэйшай унучцы, казала:

— А гэта во мне на сьмерць. Помні Ганулька, каб мяне ў гэтую сарочку па сьмерці апранулі.

— Бабулька, але-ж гэта найпрыгажэйшая сарочка, якую вы маеце.

— Вось якраз дзеля гэтага я яе і хаваю на сьмерць.

— Але-ж па сьмерці закопваюць усё ў зямлю і забрудзяць.

— Так Ганулька, цела закопваюць у зямлю, але душы нельга закапаць, ды-й цела некалі ўваскросьне і пойдзе разам з душою ў неба. Ты глядзі, калі йдзеш у госьці да некага, дык стараешся апрануцца, як мага лепш. Дык падумай, як трэба апрануцца, калі хочаш ісьці да самога Бога, твайго Стварыцеля.

Ганулька крыху памаўчала, а потым прытуліўшыся да бабулькі, казала:

— І я сабе вышыю, прыгожую, прыгожую кашулю!

### ЯК РОДНАГА СЫНА.

Праз вёску праходзіў невялікі вайсковы аддзел. Змучаныя жаўнеры затрымаліся на некалькі хвілін для адпачынку. Іх абступілі жыхары вёскі, распытваючыся аб розных навінах. Адна старэйшая жанчына прыгледзелася, што найменшы ростам жаўнер быў вельмі зьняможаны, дык заклікала яго да сябе ў хату і частавала, як найлепшага гасьця, прыгаворваючы:

— Еж, мой саколік, еж колькі можаш.

— Дзякую цётка, — гаварыў жаўнер, — вы мяне так частуеце, як родная маці.

— Праўду кажаш, мой любы, але хто ведае, можа дзе цяпер твая маці частуе майго сына, бо ён так-жа, як і ты, ў войску служыць.

### АПОШНЯЕ СЛОВА.

Уканцы мінулага стагодзьдзя ў нямецкім горадзе Бонн, дзе цяпер знаходзіцца аседак нямецкага ўраду, у унівэрсытэцкай клініцы прафэсар рыхтаваўся апэраваць язык аднаму селяніну. Таму, што гэта быў асабліва цяжкі выпадак, дык у апэрацыйнай салі сабралася шмат студэнтаў мэдыцыны. Перад пачаткам апэрацыі прафэсар зьвярнуў хвораму ўвагу, што калі-б апэрацыя ўдалася нават найлепш, дык і тады хворы назаўсёды астанецца нямком і ўканцы дадаў:

— Калі вы хочаце яшчэ нешта сказаць прысутным, дык кажэце, але перш падумайце, бо гэта будзе апошняе слова ў вашым дачасным жыцьці.

На салі запанавала глыбокая моўчанка, селянін думаў, а ўсе прысутныя ўважна глядзелі на яго. Па хвіліне селянін голасна прамовіў:

— Слава Ісусу Хрысту!

Гэта былі ягоныя апошнія словы і яны былі сказаны з такім пачуцьцём, што глыбока зварушылі ўсіх прысутных, а на вачох прафэсара нават закруціліся сьлёзы. Апэрацыя прайшла вельмі ўдала.